# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень — 27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

28 ліпеня 2017 года №30 (1161)





## Людзі блытаюць сметніцу з унітазам: сантэхнік пра рэчы, якія знаходзяць у каналізацыі

старонка 5

## Чым здзівіла археолагаў сёлетняя экспедыцыя ў Ілы

старонкі 20-21

# Куды ўкласці грошы?



| | 2006 | 2017 | Вынік |
|---|---|---|---|
| Нерухомасць (1 м. кв.)* | 1 024 $ | 1 191 $ | +14% |
| Золата (10 г) ** | 172 $ | 367 $ | +53,13% |
| Плаціна (10 г)** | 322 $ | 289 $ | -10,25% |

## Дынаміка за 2013-2017 г.г.




Нерухомасць (1 м. кв.)* | Золата (10 г) ** | Плаціна (10 г)**

*Кошт жылой нерухомасці на пачатак года па г. Мінску
**Кошт пакупкі на пачатак года

Крыніцы: НацБанк РБ, РиэлтБай, tut.by

Інфаграфіка: Кірыл СТАСЕЛЬКА.

## А колькі мы трацім на харчаванне?

Беларусы выдаткоўвалі на ежу ў 2016 годзе 41,5% ад усіх сваіх трат. Як мяняліся выдаткі дамашніх гаспадарак на харчаванне ў 2005 -2016 гадах.

старонка 3

НАВІНЫ

## У Валожыне новы галоўны доктар

ВАЛОЖЫН

Ад 21 ліпеня ў раённай бальніцы працуе новы галоўны доктар **Павел Ганчар** (на фота).



Ён нарадзіўся ў Смаргоні ў 1988 годзе. У 2012 скончыў дзяржаўны медыцынскі універсітэт па спецыяльнасці "Педыятрыя" ў Гродне.

Пасля завяршэння вучобы Павел Алегавіч прыйшоў у калектыў ЦРБ доктарам-інтэрнам, затым працаваў педыятрам дзіцячай кансультацыі, а ад 2013 года яго прызначылі на пасаду загадчыка паліклінікі.

Пра гэта расказалі ў валожынскай ЦРБ.

## У "Надзеі" будуюць сцяжыну адчуванняў

ВІЛЕЙКА

У ліпені ў дзіцячым цэнтры "Надзея" рэалізуюць праект "сцяжына адчуванняў па Кнэйпу". Ужо вядуць работы па разбіўцы і планіроўцы тэрыторыі.

Раскапалі траншэю непасрэдна пад сцяжыну, пляцоўку перад стэндам.

Падрыхтавалі будаўнічыя матэрыялы: бетонны борт, тратуарную плітку, пясок.

Пра гэта расказала спецыяліст па сувязях з грамадскасцю **Таццяна Майсак**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Клюшчанах на месцы згарэлага касцёла пабудуюць капліцу

АСТРАВЕЦ

На Гродзеншчыне аб'явілі збор сродкаў на будаўніцтва капліцы ў Клюшчанах на месцы старадаўняга драўлянага касцёла, які згарэў у чэрвені.

Драўляны храм пабудавалі ў 1726 годзе. Дзейнічаў ён да 1948. У 1990-я касцёл аднавілі. У пачатку 20 стагоддзя тут служыў беларускі паэт **Казімір Сваяк**.

Асноўная версія пажару – няспраўнасць электрасетак і электраабсталявання.

**Паводле БелТА.**

## Фестываль моладзевых субкультур зладзілі ў Смаргоні

СМАРГОНЬ

22 ліпеня ў гарадскім парку і амфітэатры арганізавалі фестываль "Моладзевы акцэнт". Пачалі свята сябры гарадскога байкерскага клуба.

Працягнулі ўсеагульную весялосць рок-гурты "Дабл" з Мядзельшчыны, "Планета ўсіх" з Вілейкі, "MemorY" і "Меандр" са Смаргоні.

Свае захапленні дэманстравалі біт-баксёры, раварысты, ролеры, спартсмены. Для маленькіх удзельнікаў фестывалю зладзілі флэшмоб мыльных бурбалак.

Кульмінацыяй свята стаў масавы запуск паветраных шароў.

**Паводле сайта Смаргонскага райвыканкама.**

## У Мядзеле адзначаць свята возера

МЯДЗЕЛ

Як звычайна, у апошнюю суботу ліпеня ў райцэнтры пройдзе свята возера "Краса майго краю".

29 ліпеня свае вырабы пакажуць народныя майстры, выступяць аматарскія калектывы, дзятву парадуе водная феерыя. Запрацуюць гульнёвыя пляцоўкі і атракцыёны. Пройдуць колерфэст, рыцарскае шоу і дыскатэка.

Пачатак свята – у 16 гадзін на гарадскім пляжы, паведамляе сайт Мядзельскага райвыканкама.

**Аддзел інфармацыі.**

## Традыцыя з Ашмяншчыны папоўніць спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў

АШМЯНЫ

Традыцыю ўганаравання валуна "Нявесцін камень" уключаць у Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Беларусі. Рашэнне надаць адпаведны статус элементу нематэрыяльнай спадчыны прынялі 26 ліпеня на пасяджэнні Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай рады пры Міністэрстве культуры.

**Паводле БелТА.**



Вуліца Прывакзальная ў 2009 годзе да добраўпарадкавання. І сёння – са спілаванымі таполямі. Фота "РГ".

# У Красным спілавалі апошнія старыя таполі

МАЛАДЗЕЧНА

**Велічныя таполі доўгі час былі ўпрыгажэннем Краснага. Магутныя дрэвы, як сцвярджаюць мясцовыя жыхары, былі сапраўднай славутасцю мястэчка.**

– Дзе вы яшчэ бачылі такіх волатаў? – спыталіся жыхары, калі прыйшлі ў рэдакцыю, каб паскардзіцца на тое, што гэтых дрэў больш няма.

У адзін дзень прыехала тэхніка і зрэзала ўсё.

– Там былі некаторыя галінкі паламаныя, але няўжо нельга было спілаваць толькі пашкоджаныя? Нашто так па-варварску абышліся з нашымі таполямі? – скардзіліся жыхары Краснага.

Мы патэлефанавалі ў сельсавет, каб распытацца пра тое, ці апраўданы быў такі ўчынак.

### Сельсавет: людзі скардзіліся, што дрэвы перашкаджаюць

На тое, каб спілаваць дрэвы на вуліцы Прывакзальнай, у нас было распараджэнне райвыканкама, расказала старшыня Красненскага сельсавета **Валянціна Кісель**.

**По яе словах, вяскоўцы, якія жывуць побач, неаднойчы скардзіліся на тое, што дрэвы ўяўляюць небяспеку для іх і могуць прынесці шкоду.**

Спецыяльная камісія прызнала дрэвы аварыйнымі.

Таму ў рамках добраўпарадкавання вёскі ў Красным і спілавалі дзве апошнія таполі на Прывакзальнай.

### Архітэктар ландшафту: мы кіруемся дакументамі

Мы папрасілі архітэктара ландшафту вілейскай ЖКГ **Рыму Казановіч** растлумачыць, якім чынам дрэвы прызнаюцца аварыйнымі.

Спецыяліст расказала, што ў кожным райвыканкаме ствараюць камісію па абыходжанні з раслінным светам. Члены камісіі абследуюць дрэва. А пасля пішуць заключэнне пра яго стан.

У сваёй рабоце спецыялісты кіруюцца шматлікімі дакументамі. Асноўны з іх – "Закон Рэспублікі Беларусь аб раслінным свеце". У артыкуле №37 гэтага дакумента рэгламентуецца абыходжанне з аварыйнымі дрэвамі.

Калі дрэвы з'яўляюцца помнікамі даўніны, гэта павінна праходзіць па дакументах. Такія дрэвы абгароджваюць. Ля іх ставяць спецыяльныя таблічкі з указаннем дадзеных.

### Прыкметы, якія ўказваюць на аварыйнасць дрэў

Да такіх прыкмет спецыялісты адносяць буйныя дрэвы з трэшчынамі, малымі вугламі паміж галінамі і ствалом. Сюды ж трапляюць дрэвы з сухімі ствааламі і галінкамі, пашкоджанымі.

**Да патэнцыйна небяспечных адносяць дрэвы з сухімі галінамі таму, што яны не могуць гнуцца, не змогуць супрацьстаяць нават сярэднім ветравым нагрузкам.**

Асабліва небяспечнымі лічаць цалкам сухія, часткова адламаныя і падсохлыя адгалінаванні.

**Аксана ЯРАШОНАК, Наталля ТУР.**



Чарніцы – хадавы тавар на міні-рынках Вілейшчыны.

Фота Аксаны ЯРАШОНАК

# У ягадах з Вілейшчыны знайшлі радыяцыю

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА

**Ягады, сабраныя ў лесе, заўсёды лічылі сапраўднай скарбонкай вітамінаў.**

Сёлета лета не радуе гарачынёй, і ягадаў няшмат. Таму мы асабліва цешымся суніцам, малінам, чарніцам і іншым падобным ласункам.

Аднак ягады, сабраныя ў лясах рэгіёна, могуць аказацца радыеактыўнымі. Замест карысці нам і нашым дзецям яны могуць прынесці шкоду.

Перыядычна ў час спецыяльнага даследавання ў лясных ягадах выяўляюць павышанае ўтрыманне радыеактыўнага цэзію.

У сёлетнім ягадным сезоне ў ліпені ўжо "засвяціліся" чарніцы. Радыеактыўныя ягады сабралі ў вёсцы Талуць, што на Вілейшчыне. Шкоднага цэзію ў іх аказалася ў паўтара раза больш за дапушчальную норму.

Таму, каб лясныя дарункі былі бяспечнымі для вас і вашай сям'і, дактары-гігіеністы рэкамендуюць правяраць сабраныя ягады ў адпаведнай лабараторыі. Яны ёсць на рынках і ў Маладзечанскім занальным цэнтры гігіены і эпідэміялогіі.

Дактары-гігіеністы нагадваюць таксама, што небяспечна набываць лясныя ягады ў невядомых месцах, асабліва каля аўтамабільных дарог.

Нікому невядома, дзе збіралі гэтыя ягады. Ніхто не можа даць гарантыі пра бяспеку і якасць гэтых прадуктаў.

| Віды ягад | Якія дакументы спытаць у прадаўца | Што правяраюць у лабараторыі |
|---|---|---|
| Лясныя | Талон з лабараторыі | Арганалептыка (ацэнка якасці з дапамогай органаў пачуццяў), радыялогія |
| Вырашчаныя на прысядзібных участках | Даведкі пра наяўнасць участка і пра вырашчаную прадукцыю, талон з лабараторыі | Радыялогія, нітраты, цяжкія металы |
| Імпартныя | Пратакол даследаванняў, пасведчанне аб якасці | Радыялогія, нітраты, цяжкія металы |

**Ірына КАЗАКЕВІЧ, доктар-гігіеніст аддзялення гігіены працы.**

## Якія мы ешчыя?

**Беларусы выдаткоўвалі на ежу ў 2016 годзе 41,5% ад усіх сваіх трат. Якой была дынаміка змяненняў гэтых выдаткаў у 2005 – 2016 гадах?**

### Выдаткі дамашніх гаспадарак на харчаванне




По дадзеных выбарачнага абследавання дамашніх гаспадарак па ўзроўні жыцця. У працэнтах да спажывецкіх выдаткаў. Крыніца: Белстат.

ЛІЧБА НУМАРА

Пасля правядзення дэнамінацыі **ў 3 разы** больш стала злачынстваў, звязаных з абаротам фальшывых грошай.

Паводле svaboda.org.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 20.07 руб. | 27.07 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1,9493 | **1,9505** |
| Еўра | 2,2468 | **2,2671** |
| Злоты, 10 | 5,3358 | **5,3321** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2921 | **3,2543** |
| Грыўня, 100 | 7,5103 | **7,5294** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ"** | **19.07** | **26.07** |
| Еўра | 2.2400/2.2590 | **2.2600/2.2800** |
| Долар ЗША | 1.9450/1.9570 | **1.9400/1.9600** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 19.07 Цана руб. | 26.07 |
|---|---|---|
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,98 | **16,85** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,65 | **6,85** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,30 | **3,25** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 3,80 | **3,85** |
| Селядзец, 1 кг | 3,95 | **3,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,30 | **1,30** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,20 | **2,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,65 | **0,69** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,30 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Капуста (маладая), 1 кг | 1,20 | **0,80** |
| Морква (маладая), 1 кг | 1,60 | **1,10** |
| Кабачкі, 1 кг | 1,60 | **1,00** |
| Лімоны (маладыя), 1 кг | 4,00 | **4,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,60** |
| Дыня, 1 кг | 2,00 | **1,00** |
| Буракі (маладыя), 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Памідоры, 1 кг | 2,40 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 1,40 | **1,30** |
| Перац, 1 кг | 2,00 | **2,50** |
| Кавун, 1 кг | 0,95 | **0,75** |
| Вінаград, 1 кг | 4,35 | **3,50** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 4,00 | **4,00** |
| Ківі, 1 кг | - | **4,60** |
| Персікі, 1 кг | 3,45 | **3,20** |
| Нектарыны, 1 кг | 3,85 | **4,50** |
| Абрыкосы, 1 кг | 3,45 | **4,00** |
| Бананы, 1 кг | 2,20 | **2,00** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Гранаты, | 9,90 | **9,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,95 | **2,20** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 4,00 | **4,00** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Бульба (маладая), 1 кг | 1,50 | **0,80** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | **6,50** |

НАВІНЫ

## Мужчына забіў пенсіянерку

МАЛАДЗЕЧНА

Цела 66-гадовай пенсіянеркі ў доме на Маладзечаншчыне 10 ліпеня знайшлі суседзі.

Міліцыя затрымала падазронага – 27 гадовага мужчыну, які быў раней судзімы.

Яго абвінавачваюць у забойстве з асаблівай жорсткасцю.

Як паведамляе афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**, вядома, што мужчына ў стане алкагольнага ап'янення ноччу пранік у дом з намерам забіць пенсіянерку з-за асабістай непрыязнасці. Жанчына прыязджала ў вёску на лецішча.

Ён пабіў пенсіянерку і ўдарыў яе нажом, ад чаго тая памерла.

Следчыя працягваюць працаваць над здарэннем.

Аддзел інфармацыі.

## Дамагаўся дзяўчынак

СМАРГОНЬ

Смаргонка **Таццяна Стахурская** палола грады ў сваім падвор'і на вуліцы Камсамольскай, калі пачула за кустамі галасы мужчыны і дзвюх дзяўчынак.

Па размове жанчына зразумела, што мужчына дамагаецца іх.

Таццяна кінулася ў кусты. Там убачыла мужчыну з тэлефонам, насупраць яго стаялі дзеці.

– Што ты тут робіш? – спытала яна ў мужчыны.

– Дзяўчынкі прасілі патэлефанаваць, – прыйшоў у сябе спалоханы мужчына.

У наступнае імгненне ён адкінуў Таццяну ўбок і пабег.

Таццяна павяла дзяўчынак да бацькоў. Па дарозе спытала, чаму дзеці пайшлі за незнаёмым. Тыя адказалі, што мужчына абяцаў купіць для іх нешта смачнае.

Гэтага чалавека Таццяна бачыла гадзіну назад. Дзяўчынкі гушкаліся на арэлях, а ён сядзеў на лаўцы і глядзеў на іх. Тады жанчына і падумаць не магла нічога дрэннага.

Потым мама адной з дзяўчынак выклікала міліцыю. Следча-аператыўная група пачала дзяжурыць у Цэнтральным і Усходнім раёнах.

Каля аптэкі на вуліцы Савецкай міліцыянеры заўважылі падобнага мужчыну. Яны затрымалі яго і даставілі на месца злачынства. У ім Таццяна пазнала таго, каго бачыла ў кустах з дзяўчынкамі.

Узбудзілі крымінальную справу. Пасля высветлілася, што ў 40-гадовага жыхара Смаргоншчыны ёсць псіхічныя адхіленні. Яго змясцілі ў псіхбальніцу ў Жодзішках.

Паводле УУС Гродзенскага аблвыканкама.



## На Вілейшчыне гаспадар не змог патушыць машыну самастойна

ВІЛЕЙКА

У вёсцы Вітаўцы Даўгінаўскага сельсавета 23 ліпеня згарэў аўтамабіль.

Пра пажар выратавальнікам каля 17:00 паведамілі жыхары вёскі.

Па словах выратавальнікаў, у гаспадара загарэлася машына "Аўдзі-100" 1984 года выпуску. Ён спрабаваў патушыць яе самастойна, але не змог.

Машына выгарала цалкам. Адрамантаваць яе ўжо нельга.

Па словах інспектара **Аляксандра Казакевіча**, напярэдадні гаспадар рамантаваў свой аўтамабіль.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Купіў самагонку за сувенірныя еўра. А рэшту атрымаў сапраўднымі

ВАЛОЖЫН

Прыйшоў пакупнік да валожынца, што гандлюе самагонам, і сказаў:

– Хачу ў цябе купіць алкаголь, але беларускіх грошай няма, можа, возьмеш еўра?

Прадавец-нелегал з ахвотай пагадзіўся на здзелку.

Прадаў некалькі пляшак ды яшчэ і рэшту даў беларускімі грашыма.

Пры гэтым толькі на раніцу заўважыў, што на купюры ў 100 еўра напісана буйнымі літарамі: "Не з'яўляецца плацежным сродкам".

Абураны такімі паводзінамі свайго пакупніка, прадавец звярнуўся ў міліцыю.

...За што і атрымаў адміністрацыйнае пакаранне за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць.

Гора-фальшывамонетчыка таксама будуць судзіць па артыкуле "Махлярства".

Расказаў пра гэта старшы следчы Валожынскага РАСК **Сяргей Лапцік**.

Наталля ТУР.

# У аварыі загінула 37-гадовая пасажырка

МАЛАДЗЕЧНА

**Ноччу з 23 на 24 ліпеня ў вёсцы Радзеўцы бяспраўнік здзейсніў аварыю.**



На месцы здарэння.

Фота mh.by.

36-гадовы кіроўца, жыхар вёскі Родзевічы, ехаў па дарозе Радашкавічы-Асавец у накірунку Чысці на аўтамабілі ВАЗ.

У нейкі момант не справіўся з кіраваннем, выехаў за межы праезнай часткі, і машына стукнулася ў прыдарожнае дрэва.

Кіроўцу з машыны даставалі выратавальнікі. Мужчыну з траўмамі забралі ў бальніцу. А яго знаёмая, ураджэнка і жыхарка вёскі Мазалі, ад атрыманых траўмаў загінула на месцы. Жанчыне было 37 гадоў. Яна нідзе не працавала.

Пазней следчыя высветлілі, што ў машыне быў яшчэ адзін пасажыр – 24-гадовы жыхар вёскі Гарнякі. У выніку аварыі ён атрымаў нязначныя траўмы і збег з месца здарэння.

Як расказаў старшы следчы Маладзечанскага РАСК **Юры Багушэвіч**, кіроўца ўжо быў судзімы за пашкоджанне маёмасці і ўгон аўтамабіля. Да жніўня 2017 года яго пазбавілі правоў.

На момант аварыі мужчына быў у стане алкагольнага ап'янення.

Маладзечанскі раённы аддзел следчага камітэта просіць сведак і відавочцаў здарэння, калі ім нешта вядома пра аварыю, звярнуцца ў следчы камітэт у Маладзечне на адрас: вул. Прытыцкага, 23, кабінет 104 або па тэлефоне **8 (0176) 580778** да следчага **Рамана Арцем'ева**.

Аксана ЯРАШОНАК.

# Маладзечанскі РАУС нагадвае, як паводзіць сябе з махлярамі

МАЛАДЗЕЧНА

**Выпадкі, калі даверлівых спажыўцоў падманваюць несумленныя прадаўцы, даволі частыя.**

Па кватэрах і дамах ходзяць людзі, якія дэманструюць і прапануюць набыць у іх бытавую тэхніку па завышаным кошце. Калі раней прапаноўвалі бытавую тэхніку, то цяпер такія асобы пранікаюць у кватэры пад выглядам сацыяльных работнікаў.

Могуць таксама прадаваць фільтры для вады, коўдры або прапаноўваюць правесці дыягностыку шклопакетаў.

Падобныя выпадкі могуць вырашаць у судовым парадку, бо адносяцца да галіны грамадзянска-прававых адносін.

За 2016 год у маладзечанскі РАУС паступіла 48 паведамленняў пра тое, што тэлефанавалі невядомыя, прапаноўвалі праверыць вокны. Два чалавекі паведамілі аб тэлефонных прапановах праверыць ваду.

**Прыцягнуць да адказнасці такіх грамадзян праблемна, бо людзі самі пускаюць іх у кватэры, добраахвотна набываюць тавары.**

Па статыстыцы, асабліва схільныя верыць несумленным прадаўцам сталыя людзі. Па-першае, у іх часцей больш грашовых зберажэнняў. І гэта прываблівае махляроў. Па-другое, сталыя людзі – больш даверлівыя.

Каб не стаць ахвярай падобнага злачынства, неабходна выконваць наступныя правілы:

– не пускаць у кватэру, дом старонніх людзей, кім бы яны не прадстаўляліся. Абавязкова пытацца пра пасведчанне асобы, асабліва ў тых, хто гандлюе рознымі рэчамі;

– не пускаць у дом, кватэру тых, хто просіць папіць вады, схадзіць у прыбіральню. Часта гэтыя асобы, уваходзячы ў давер, карыстаюцца няўважлівасцю гаспадароў, выглядаюць месцы, дзе захоўваецца грошы, каштоўнасці і крадуць.

Калі вы ў пад'ездзе, у двары дома, у вёсцы заўважылі людзей, якія прапануюць нешта набыць, просяць міласціну, патэлефанаваць, папіць вады, званіце ў міліцыю па нумары **102**. Пастарайцеся запомніць нумары і маркі машын гэтых людзей.

Маладзечанскі РАУС просіць чытачоў давесці інфармацыю да дзяцей, сваякоў, суседзяў, якія ў сілу свайго ўзросту ці іншых абставін не змогуць прачытаць матэрыял.

Валянцін АСІПОВІЧ, палкоўнік міліцыі, начальнік аддзела.

# На Валожыншчыне сястра папрасіла брата з жонкай пасядзець з дзіцем, а тыя скралі пярсцёнкі

ВАЛОЖЫН

**Здарэнне са скрадзенымі пярсцёнкамі адбылося яшчэ ў лістападзе, але цікавыя падрабязнасці і новая крымінальная справа з'явіліся толькі цяпер.**

Але пра ўсё па парадку.

Жывуць у вёсцы Дубіна Баярская маладыя муж і жонка. Ім ледзьве споўнілася па 25 гадоў. Але следчым Валожына яны знаёмыя даўно. Неаднаразова судзімыя, муж з жонкай вядуць асацыяльны лад жыцця.

І ў таго мужа ёсць сястра, жанчына прыстойная, яна верыла ў тое, што і яе брат прыстойны чалавек.

Папрасіла сястра ў лістападзе пасядзець маладзёнам за сваім дзіцем.

Хто ж ведаў, што, прыглядаючы за пляменнікам, малады чалавек пакладзе вока і на заручальны пярсцёнак свайго швагра.

А праз пару тыдняў, застаўшыся з пляменнікам мужа, ужо жонка скрадзе заручальны пярсцёнак сваёй залвіцы (сястры мужа).

Па тым крадзяжы пара была асуджаная і пакаранне адбыла.

Але вось што высветлілася днямі.

Скрадзены заручальны пярсцёнак сваёй залвіцы жонка прынесла мужу. І той, ведаючы, што маёмасць скрадзеная, прадаў яго.

А ў Крымінальным кодэксе Беларусі ёсць артыкул: "Збыт матэрыяльных каштоўнасцяў, заведама здабытых злачынным шляхам".

І па гэтым артыкуле ахвочага да чужых заручальных пярсцёнкаў можа чакаць да трох гадоў пазбаўлення волі.

Расказаў пра гэта "Рэгіянальнай газеце" старшы следчы Валожынскага РАСК **Сяргей Лапцік**.

Наталля ТУР.

# “Адчуванне, што людзі блытаюць, што такое сметніца, а што ўнітаз”

## Сантэхнік пра дзіўныя рэчы, якія змываюць у каналізацыю

МАЛАДЗЕЧНА

**Летам у гаспадынь з’яўляецца шмат клопату – як паспець нарыхтаваць садавіну і гародніну. У сантэхнікаў у сваю чаргу больш турбот – ну, чаму нельга гародніну выкінуць у сметніцу, а не спускаць у каналізацыю.**

– Чаго толькі не даводзіцца даставаць з яе! – расказвае сантэхнік ЖРЭУ №3 Маладзечна **Уладзімір Курыла** (на фота). – Тут вам і бульба, і морква, і леташнія нарыхтоўкі. Але калі з гэтымі прадуктамі зразумела, бо могуць змясціцца ва ўнітаз, то як туды трапляюць і нават спускаюцца па каналізацыйных трубах качаны капусты – застаецца загадкай.

Спецыяліст расказваў, што ў адным з дамоў прыйшлося разбіваць трубу, каб выцягнуць адтуль качан капусты. І то адрывалі па лістку – па-іншаму ніяк.

**– Часта складаецца адчуванне, што людзі проста блытаюць, што такое сметніца, а што такое ўнітаз, – узрушаны спецыяліст.**

Сярод рэчаў, якія часцей за ўсё змываюць у каналізацыю, сантэхнік называе гігіенічныя сродкі, гігіенічныя блокі для ўнітазаў, анучы.

**! Спецыяліст адзначае, што ні ў якім разе нельга змываць туалетную паперу ва ўнітаз.**

Вялікая колькасць згібаў і паваротаў каналізацыйных труб прыводзіць да таго, што папера асядае ў самых недаступных месцах, трубы забіваюцца.

Многія могуць запярэчыць: туалетная папера раствараецца ў вадзе. Але гэта залежыць ад маркі вырабу. На разбурэнне шчыльнай паперы ідзе да паўгадзіны.

– Але бадай самай дзіўнай і ад гэтага запамінальнай знаходкай была невялікая навагодняя ёлка, – усміхаецца Уладзімір. – Як людзі ўмудрыліся яе змыць, не магу ўявіць, аднак факт такі быў.

Прычыну таго, што людзі многае змываюць у каналізацыю, спецыялісты бачаць у ляноце выкідаць смецце. Асабліва калі жывуць на верхніх паверхах: у мяне трубы не забʼюцца, а знізу – хоць патоп. Аднак ёсць жа жыхары першых паверхаў, да якіх будуць даносіцца непрыемныя пахі, трэба мець павагу да суседзяў.

**У ЖРЭУ №3 адзначылі, што ў 90% выпадкаў, па якіх забіваюцца трубы, вінаватыя самі жыхары.**

**Адгаворвае людзей пісаць падзякі**

– Аднак усё ж не лета з’яўляецца самым гарачым часам, а пачатак ацяпляльнага сезона, – дзеліцца досведам Уладзімір. – Трэба запусціць ацяпленне, выпусціць паветра з батарэй, яшчэ і заяўкі паступаюць: у некага труба пацякла, іншага затапіла. Даводзіцца заставацца нават пасля работы. Часам і паабедаць няма калі – людзей жа не кінеш сам-насам з праблемамі.

Асабліва ўдзячныя людзі не лянуюцца прыйсці ў ЖРЭУ і напісаць добрым работнікам падзяку.

– Аднак стараемся адгаварыць, калі чуем, што плануюць напісаць падзяку, – спакойна тлумачыць мужчына. – Навошта гэта, мы выконваем сваю работу. Самай лепшай падзякай будзе тое, каб сантэхніка доўга служыла і людзі з задавальненнем ёй карысталіся, значыць, добра выканалі работу.

Пра тое, што работа сантэхніка мае непрыемны пах, Уладзімір весела жартуе: “Калі шчыра, падаецца, што мой нос ужо і не ўлоўлівае гэтых пахаў, прызвычаіўся. А першы час было складана”.

Часам сантэхнікі выконваюць работу і грузчыкаў. Людзі цягнуць у падвалы і патрэбныя, і непатрэбныя ім рэчы, а пасля ж самі і скардзяцца. Калі здараецца нейкая паломка, горы непатрэбных рэчаў ускладняюць работу спецыялістаў, трэба выносіць.

– Аднак праца падабаецца, асабліва тым, што заробак ніколі не затрымліваюць, – падсумоўвае Уладзімір. – Прыходзіцца вырашаць разнастайныя сантэхнічныя праблемы, гэта праца з рознымі людзьмі. А новыя кантакты заўсёды цікавыя.

Уладзімір адзначае, што не саромеецца сваёй прафесіі і калі незнаёмыя пытаюцца, кім працуе, заўсёды з гордасцю адказвае – сантэхнікам. А калі пафарсіць захоча, называе спецыяльнасць “Мантажнік сантэхнічных сістэм і абсталявання”. Гаворыць, што многія па назве дзіўлена ўсклікаюць: “Нічога сабе!”

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**
**Фота аўтара.**

## Стала вядомая праграма “Юшка-фэсту” ў Вілейцы

ВІЛЕЙКА

**“Юшка-фэст” пачнецца 12 жніўня ў 12:00 на гарадскім пляжы Вілейскага вадасховішча, а скончыцца бліжэй да апоўначы, – абяцаюць арганізатары.**

У праграме:
– праца гандлёвых радоў;
– выступленне музычных і танцавальных гуртоў;
– аніматары і ростaвыя лялькі;
– выстава вырабаў арт-лабараторыі “Добрыя рэчы” і іншых рамеснікаў Вілейшчыны;
– спартыўныя гульні і конкурсы;
– танцы;
– дзіцячыя атракцыёны;
– паказальныя выступленні ДТСААФ і клуба “Патрыёт”;
– пагружэнне з прафесійнымі вадалазамі;
– фестываль фарбаў “Холі”;
– конкурс русалак;
– конкурс на паяданне рыбных пельменяў і прыгатаванне юшкі;
– майстар-класы па скандынаўскай хадзе, прыгатаванні юшкі і іншыя майстар-класы;
– вогненнае шоу;
– гала-канцэрт творчага конкурсу “Вілейская хваля”.

Спецыяльныя госці – Colibri cover band feat, **Вікторыя Шайко**, салістка групы “Крыві” **Анастасія Хмель**.

Па словах арганізатараў, наведнікаў фэсту на вадасховішчы чакае яшчэ нямала сюрпрызаў.

Нагадаем, што “Юшка-фэст” праводзяць у рамках праекта Еўрасаюза “Садзейнічанне развіццю на мясцовым узроўні ў Рэспубліцы Беларусь”. На яго правядзенне Еўрасаюз выдзеліў каля 26 тысяч долараў.

У мэтах арганізатараў – павысіць турыстычны патэнцыял Вілейскага раёна, далучыць насельніцтва да здаровага ладу жыцця і развіць на вадасховішчы інфраструктуру для вольнага часу і заняткаў спортам.

Фестываль збярэ актывістаў і раскрые патэнцыял вадасховішча, разнастаіць адпачынак жыхароў Вілейшчыны і гасцей рэгіёна, лічаць арганізатары.

У далейшым мерапрыемства можа стаць штогадовым, – не выключаюць яны.

Ініцыятарамі мерапрыемства сталі грамадскае аб’яднанне “ЗОВіК” на чале з **Таццянай Цітуленкай** і Крывасельскі сельвыканкам на чале са старшынёй **Ірынай Супрановіч**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Сяргей Бязрукаў сыграе Мікалая Кісялёва, які ў часы вайны выратаваў яўрэяў на Вілейшчыне

**Сяргей Бязрукаў сыграе Мікалая Кісялёва, які ў часы вайны выратаваў яўрэяў на Вілейшчыне**

“Рэгіянальная газета” шмат пісала пра партызана, праведніка народаў свету Мікалая Кісялёва, які ў часы вайны быў звязаны з ільянскімі падпольшчыкамі, вывеў на Вялікую Зямлю яўрэяў з Даўгінава.

Цяпер у Расіі здымаюць фільм пра Мікалая Кісялёва. Ролю галоўнага героя сыграе акцёр Сяргей Бязрукаў.

Кінапраект “Вялікая Зямля” прадставілі Сяргей Бязрукаў і **Ганна Мацісан**.

У 2008 годзе пра Мікалая Кісялёва знялі дакументальны фільм “Спіс Кісялёва”.

Ганна Мацісан адзначыла, што праект можа выйсці на міжнародны ўзровень. Сяргей Бязрукаў упэўніў, што будзе старацца, як ніколі.

Тэрміны работы над “Вялікай Зямлёй” не ўдакладняюцца.

**Паводле kino-teatr.ru.**



Сяргей Бязрукаў і Ганна Мацісан.




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103.**
**ВІЛЕЙКА** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.**

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-21063 (Лада), 1986 г.в., прабег 46 тыс. Т. (8-029) 9505098.*

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• Опель-Зафіра А рэстайлінг, 2.0 дызель, 2004 года. Т. (8-029) 1249091.*

• Пежо-407, 2007 г., Т. МТС (8-029) 5745917.

• Фольксваген-Гольф 4, 2001 г.в.. 1,9 ТДІ. Т. (8-029) 6147701.

• Фольксваген-Джэта, 1984 г.в., у добрым стане, на хаду. Т. (8-033) 3302541.*

• Форд-Эскорд, 1995 г.в. на запчасткі. Т. (8-029) 55266113.

• Веласіпед Roiser, б/у, 15 дзён, 6 хуткасцяў, колы 26 цаляў. Т. (8-029) 9127234.

• **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *

• Запчасткі да БМВ 525, 1997 г.в. Т. (8-044) 7387127.*

• Запчасткі да Мазды 626, 2,0Д, 1994 г.в. Т. (8-044) 7387127.*

• Запчасткі да Форда-Эскорт, 1994 г.в. Т. (8-029) 7792477.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Т.(8-029) 5677052.*

### ПАСЛУГІ

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*

| Тэлефонныя коды | гарадоў рэгіёну: |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |





• Паслугі міні-экскаватара. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

• Паслугі экскаватара ЮМЗ. Усе віды земляных работ. Самазвал 10 т. ІП Крэнць С.М. УНП 692015814. Т. (8-044) 5543967, (8-029) 8762233.*

• Усе віды зварачных работ. Т. ІП Кумпяк І.М. УНП 691182247.(8-029) 5676481.*



## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра на 3-м паверсе ў Вілейцы ў раёне Зеніт. Цана дагаворная. Тэрмінова. Т. (8-029) 5679826.

• 2-павярховы дом у Вілейцы па вул. Юбілейная. Тэрмінова! Т. 98-029) 7039162.



• 2-пакаёвая кватэра на 3 паверсе ў Вілейцы, раён Зеніт. Т. (8-033) 3209337.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, р-н з-да "Зеніт", 3 паверх 5-павярховага дома. Свежы рамонт. Т. (8-029) 1331698, 98-029) 5559694.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 5081223.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Смаргоні. Т. (8-029) 3443740*.

• 3-пакаёвая кватэра на другім паверсе ў Маладзечне па вул. Віленскай, 64,4/39,7 м2. Т. (8-029) 1972673, (8-029) 9979026.*

• 3-пакаёвая кватэра ў а.г. Любань Вілейскага р-на. Т. (8-033) 6362026.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-033) 6041497.

• Гараж ГСК-2, 6Ч4,2 м., 3800 BYN. Т. (8-029) 2375721.

• Гараж у ГК-5Р у Маладзечне, патынкаваны, пафарбаваны, аглядная яма, падвал, 1650 рублёў, торг. Т. (8-029) 1419072.*

• Дача з мэбляй, ёсць халадзільнік, газавая пліта, інвентар, 2 цяпліцы, сад, кусты, 6 сотак. Вёска Гай Маладзечанскага раёна. Дарога, торг. Т. 98-029) 3043585.

Прадам **ДАЧУ** паблізу Вілейкі, Плікавічы. Участак 10 сотак. 4 км да вадасховішча.



Т. (8-029) **651 20 36**.

• Дача ў в. Клыні, 11000 BYN. Т. (8-029) 2375721.

• Дача ў Татаршчызне ў с/т "Пісарэўская бярозка". Участак 5 сотак, дом 31,7 м². Святло, сезонная вада, прывазны газ – балон, печ. 11000 рублёў, разумны торг. Т. (8-029) 1998923 (Дзмітры).*

• Дом драўляны ў добрым стане, нарачанскі напрамак, 8 км ад Вілейкі, 16 сотак, калодзеж, склеп. Т. (8-044) 7587148.*

• Дом жылы ў Маладзечне, цэнтр, газ, водаправод. Т. Вэлком (8-029) 6691789.*

• Дом ў а/г Солы Смаргонскага раёна. Т. (8-029) 3594352, (8-029) 1863308.

• Дом у в. Астраўляны Мядзельскага раёна з гаспадарчымі пабудовамі, у паўтара кіламетрах ад Вішнеўскага возера. Т. (8-029) 9579917, (8-033) 3444338.*

• Дом у в. Куранец. Т. (8-029) 7603076.*

• Дом у в. Папоўцы Вілейскага раёна Мінскай вобласці, 20 сотак, гаспадарчыя пабудовы, лазня. Т. (8-029) 8587518, (8-01771) 55349.*

• Дом у в. Порса з выгодамі. Т. (8-033) 3011041.*

• Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

• Дом у Вілейскім р-не, Касцяневіцкі с/с, в. Навасёлкі, ёсць 2 газавыя балоны. Т. (8-0176) 778635.*

• Дом у Вілейцы, Макаўе, з усімі выгодамі. Т. (8-033) 3209338.*

• Дом цагляны ў в. Куранец Вілейскага раёна, больш за 100 м2, зямельны ўчастак – 40 га, 9000 рублёў. Т. МТС (8-029) 5609398, 98029) 5609402.*

• Новы зруб лазні 5Ч4 пад дахам з выхадам 4 м. Т. (8-029) 3436138.

• Паўдома з усімі выгодамі ў Вілейцы па вул. Вадап'янава, 49-а. Агульная плошча 42 м² і ўчастак у цэнтры горада. Т. (8-01771) 53210, (8-029) 7486583.

### ЗДАМ

• 2-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Т. (8-044) 7182552.*

• Пакой у цэнтры Маладзечна. Т. (8-029) 5019550.*



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

• **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

# Свята вуліц адзначылі ў Красным




Жыхары вуліцы Нагорнай.

МАЛАДЗЕЧНА

**22 ліпеня ў Красным адбылося свята "Дзень вуліц Нагорнай і Маладзёжнай". Жыхары абедзвюх вуліц падрыхтавалі песні, танцы, а таксама частавалі ўсіх, хто заходзіў сюды, смачнымі стравамі.**

У 11 гадзін раніцы на вуліцы Нагорнай ўжо шмат людзей, распалены мангал, пахне блінамі, булачкамі, мясам. Па адным баку дарогі ў зялёнай агароджы з травак і пруцікаў стаіць доўгі стол, вакол якога кружацца жанчыны ў рознакаляровых хустках. Побач мужчына іграе на баяне. Гэта прадстаўнікі Маладзёжнай вуліцы. Цераз дарогу размясціліся палаткі прадстаўнікоў Нагорнай, але там людзей было менш, а на сталах – безліч розных пачастункаў.

– Такое свята мы праводзім першы раз, – расказвае старшыня Красненскага сельсавета **Валянціна Кісель**. – Вуліцы даволі маладыя, у 1991-1992 гадах пачалі іх будаваць. З 1993 пачалося засяленне. І вось цяпер мы бачым прыгожыя двары, у якіх жывуць прыемныя, працавітыя людзі. Суседзі сябруюць, дапамагаюць адзін аднаму. Чаму не зрабіць для іх свята?

Сельсавет вырашыў правесці конкурс у трох намінацыях: лепшы стол, лепшая сядзіба і лепшая вуліца.

Пакуль мы размаўляем з Валянцінай Кісель, нашым вачам адкрываецца такая карціна. Па дарозе на старэнькай машыне едуць… піянеры. Сапраўдныя: у пілотках, а жанчыны ў белых фартухах, з банцікамі, хто нават у савецкай школьнай форме… Гэта было відовішча! Дружна яны сустракалі гасцей і сваіх суседзяў-сапернікаў. Так яны даехалі да сваіх сталоў, пачалі пець песні, запрашалі гасцей за стол і расказвалі пра сваю вуліцу Нагорную ў вершаванай форме.

**Можна было пачаставацца селядцом пад шубай, аліўе, блінамі, пірагамі.**

Не прайшло і паўгадзіны, як з другога боку прадстаўнікі Маладзёжнай вуліцы дружным хорам пачалі склікаць гасцей да сябе. Удзельнікі таксама парадавалі танцамі і песнямі, а потым нават прапанавалі і гасцям далучыцца спяваць. Цікавасць была ў тым, што адна з удзельніц хадзіла вакол гасцей і аднаму на свой выбар хутка надзявала капялюшык. Той, у каго аказаўся капялюшык, абавязаны быў спець якуюнебудзь прыпеўку. Ахвотных было шмат, але найбольш ахвочыя да прыпевак былі прадстаўнікі старэйшага пакалення. Маладыя чамусьці адразу адыходзілі назад, саромеліся ці што. Пасля гасцей запрасілі да стала.

– Я нават не чакала, што ў нас будзе такое пышнае свята. – дзеліцца ўражаннямі мясцовая жыхарка **Алена Халявінская**. – Арганізатары і ўдзельнікі малайцы! Мне спадабалася выступленне абедзвюх вуліц. Усе стараліся!

А потым быў канцэрт. Госці і гаспадары свята спявалі, танцавалі ўсё, пачынаючы ад лявоніхі і да сучасных танцаў.

На цырымоніі ўзнагароджання ўзгадалі пра самых сталых людзей, што жывуць на гэтых дзвюх вуліцах, жадалі ім здароўя, даўгалецця. І пра самых маладых жыхароў не забыліся. А калі прыйшоў час да вынікаў конкурсу, усе прыціхлі. Цікава, хто ж выйграе?

І тут прадстаўнікі абедзвюх вуліц пачалі крычаць хорам: адны "Маладзёжная", другія "Нагорная".

І толькі дзесьці бліжэй да сцэны адзін з удзельнікаў гучна выгукнуў: "Сяброўства!" Так яно і атрымалася. Маладзёжная і Нагорная вуліцы аказаліся вялікімі малайцамі. Яны доўга рыхтаваліся да свята, падбіралі песні, прыдумвалі прыпеўкі, гатавалі ежу. І яны выдатна выканалі сваю галоўную задачу: парадаваць гасцей. Усе ўдзельнікі атрымалі ад сельсавета прыемныя прызы.



Падчас святкавання.

**Кацярына КАСЦЕВІЧ,**
**студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ.**
**Фота аўтара.**

# Як зайсці ў мора ў Гданьску, а выйсці з яго ў Сопаце

**Які самы дзіўны ўчынак можна было зрабіць гэтым халодным летам? Збегчы да мора… Балтыйскага, дзе, па прагнозах надвор'я, штодзень было + 18.**



На пляжах нешматлюдна, затое можна пакарміць лебедзяў, пачытаць кніжку і проста паглядзець удалячынь на вялізныя караблі.

Але я рызыкнула і ні разу пра гэта не пашкадавала.

Гэты артыкул пра асабістыя ўражанні ад польскай Балтыкі, ад бурштынавай сталіцы Польшчы, ад таго, як за адзін тыдзень і змерзнуць у моры, і спаліцца на сонцы.

Што асабіста было важна для мяне пры выбары месца адпачынку, гэта каб было нядорага, каб мора было побач і каб было што паглядзець.

Гданьск для гэтага падышоў ідэальна. Старажытны горад, ехаць не так доўга. Да Гданьска ад Маладзечна прыкладна 700 кіламетраў, ці 11 гадзін язды.

І тут чакае яшчэ адзін прыемны бонус: прыехаўшы ў Гданьск, вы аўтаматычна можаце наведаць ажно тры гарады: Гданьск, Сопат і Гдыню.

Так адбылося ў нас з Сопатам у першы дзень знаходжання на моры.

Але пакуль некалькі слоў пра мора.

### Балтыйскае мора: лебедзі, яхты і магніты з цюленямі

Тут яно зялёнае. Але не такое зялёнае, як Вілейскае вадасховішча, а ізумруднае. І мелкае. Ідзеш-ідзеш, а яно ўсё па калена і па калена.

А мора было халоднае. Але ж гэта мора, з ім сустрэча адбываецца ў лепшым выпадку раз на год, таму паплаваць трэба было абавязкова.

Але ў халоднага мора ёсць свае перавагі.

Тут няма надакучлівых прадаўцоў, якія прама над вухам табе крычаць:

– Чурчхела! Пахлава! Кукуруза!

**І тут на пляжах няма пярэстых парасонаў. А ёсць спецыяльныя ўкрыцці ад балтыйскага ветру.**

Людзей таксама няшмат, можна з лёгкасцю легчы так, каб пасакрэтнічаць з сяброўкай і не баяцца, што вас нехта падслухае.

Рускую мову на пляжы даволі чуць часта. Але не гэта галоўнае.

На набярэжнай прадаюць магніты… з цюленямі. Той, хто адпачываў на Чорным моры, прызвычаіўся да таго, што на кожным другім магніціку дэльфін. А тут цюлень. Так, у Балтыйскім моры цюлені – гэта славутасць.

Але вернемся да мора. Пагрэцца ў ім давялося толькі апошнія дні два нашага прабывання ў Гданьску. На моры ў гэтыя дні быў амаль шторм: хвалі вялізныя, шумныя, вецер такі, што зносіла ім усё навокал. Шчыра прызнацца, на купальнік хацелася надзець футра.

Але надвор'е прыгатавала сюрпрыз. На вуліцы ж тэмпература была +31. Ніякімі крэмамі мы не намазваліся, твар ад сонца не хавалі, бо ад ветру было натуральна холадна, але калі вярнуліся дадому, то заўважылі, што цела гарыць агнём. Балтыйскі загар прычапіўся да яго надзейна.

У першы дзень было не да загару. Мне хацелася адчуць пах і смак мора. Таму, не зважаючы на тое, што ногі ў вадзе ад ходаду ўжо пачалі нямець, а каб зайсці ў ваду хаця б па пояс, было яшчэ далёка, таму адзіным верным рашэннем было плюхнуцца ў ваду, як балтыйскі цюлень.

І тут здарыўся цуд. Заходзіла ў ваду я побач з таблічкай: "Выратавальная станцыя Гданьск", а праз 200 метраў вынырнула побач з таблічкай "Выратавальная станцыя Сопат".

Праўда, не верылася, што мы ўжо ў іншым горадзе. Але не губляць жа такую магчымасць, трэба было паглядзець яго.

### Сопат – курорт для аматараў вафляў і мілых пенсіянераў

Сопат – горад курортны. І з гэтым ніхто не спрачаецца. Тут шмат кветак, лавак, гандлёвых пунктаў. У гандлёвых пунктах, акрамя розных сувеніраў, гандлююць рознымі прысмакамі. Не памылюся, калі скажу, што самы папулярны з іх – гэта гофра. Вялізная вафля з узбітымі вяршкамі і ягадамі. Яе тут можна набыць паўсюль. Кошт – ад трох злотых (1,5 рубля).

Знакаміты горад Сопат сваім "Крывым домікам" і самым доўгім драўляным молам у Еўропе.

Домік, шчыра прызнацца, уразіў меней. Таму што падчас курортнага сезона яго за вулічнымі кавярнямі і натоўпамі турыстаў амаль не відаць. У прынцыпе, і знутры ён не ўразіў – проста гандлёвы цэнтр.

Іншая справа – мол. Уваход на яго каштуе 8 злотых (каля 4 рублёў). Калі вы будзеце ў Сопаце ад лістапада да красавіка, то зайсці на пірс можна будзе бясплатна.



За мной – самая знакамітая славутасць Гданьска – жураў, будынак, які нагадвае фігурку ў тэтрысе.

Яго даўжыня больш за 500 метраў, гэта, вядома ўражвае.

Але калі вы шкадуеце грошай, то можна абысціся і без яго наведвання. Мол – гэта доўгі белы драўляны пірс. Па ім проста прагульваюцца, на ім іграюць музыкі для турыстаў, і мол выкарыстоўваецца як прыстань для суднаў, фрэгатаў, яхт і водных таксі.

Але калі вы хочаце прыгожыя фотаздымкі на фоне мора, белага пясчанага пляжу, прыгожых, дарагіх яхт, то тады не пашкадуйце тых 8 злотых.

### Гданьск – горад, дзе прыпынкі ў трамваі аб'яўляюць дзеці і оперныя спевакі

Пісаць пра тое, які Гданьск прыгожы, старажытны, каларытны горад – занятак няўдзячны. Пра прыгажосць гэтага горада напісаны тысячы даведнікаў.

Любы з іх вам прапануе ўбачыць жураў (будынак, дзе раней разгружалі караблі), старажытны млын, марыяцкі касцёл з глядзельнай пляцоўкай, фантан Нептуна.

Якую параду вам можа даць чалавек, які прабыў у гэтым горадзе ўсяго тыдзень? Выходзьце ў стары горад і гуляйце. Глядзіце па баках і здзіўляйцеся таму, што пабачыце. Фатаграфуйце, запамінайце.

Але адпачываць ад доўгага шпацыру я параіла б усё ж не ў кавярнях (хаця там таксама можна), а на набярэжнай ракі Матлава. Там можна проста звесіць ногі ў ваду і гадзінамі глядзець на раку, на жураў, на яхты і водныя трамвайчыкі, на турыстаў і спартсменаў-байдарачнікаў, якія трэніруюцца побач.




На сопацкім моле вароны частуюцца прысмакамі з рук старых маракоў.

Дарэчы, пра трамваі. Калі стары горад вы пройдзеце ўздоўж і ўпоперак, садзіцеся на трамвай і едзе ў раён, які называецца Аліва. Там і батанічны сад з нейкімі суперрэдкімі раслінамі, і гданьскі заапарк. Толькі не палохайцеся, калі над вашым вухам раптам праспявае оперны спявак на матыў арыі Тарэадора з "Кармэн": "Наступны прыпынак "О-о-о-опе-ра ба-а-а-алтыйская". А праз два прыпынкі голас дзіцяці дадасць: "Наступны прыпынак "Дзіцячы тэатр". Мілата, адным словам!

Ну і калі дойдзе чарга да падарункаў, то смела выбірайце бурштын. Ён тут прадаецца паўсюль. Хаця я з большым задавальненнем выбрала б магніцік з цюленем.

**Наталля ТУР.**
**Фота Марыны ПАПОВІЧ.**
**Больш фота на сайце**




## Падбіваем грошы:

- Білет да Варшавы ў адзін бок – 55 рублёў.
- Білет на аўтобус з Варшавы да Гданьска – 40 злотых ( 20 рублёў).
- Пражыванне ў гатэлі – прыблізна 10 еўра ў суткі.
- Аднаразовы квіток на трамвай – 3 злотыя.
- Абед у кавярні – ад 10 злотых.
- Сувенір з бурштыну – ад 10 злотых.

# Просты селянін з Кушлянаў – заснавальнік музею Багушэвіча

**Упершыню пра Кушляны давялося пачуць падчас выступлення цымбальнага аркестра Смаргонскага РДК пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча культуры БССР Аляксандра Дзяругі на беларускім тэлебачанні ў канцы 1950-х гадоў.**

Школьнікам я таксама іграў у гэтым калектыве.

Відэазапісу тады на тэлебачанні не было, выступленне ішло адразу ў прамы эфір.

Аўтар перадачы папрасіў прывезці з сабой селяніна, які мог бы расказаць, як жылося ў даўнейшай вёсцы, пасля чаго загучыць працяжная мелодыя ў выкананні аркестра.

З намі прыехаў прыгожы сівы селянін з Кушлянаў – **Міхал Сымонавіч Ляпеха**. Нечым ён мне нагадваў коласаўскага дзядзьку Антося, які варыў клёцкі з сокам.

Наш дзядзька Міхал вельмі спадабаўся рэжысёру.

Дзядзьку Міхалу сказалі:

– Калі на камеры, якой цябе будуць здымаць, загарыцца чырвоная лямпачка, пачынай свае ўспаміны без ніякіх лішніх слоў.

Калі тая лямпачка загарэлася, першыя словы дзядзькі Міхала былі:

– Ужо гаварыць? Да?

А пасля пачаў расказваць пра вёску, пра хаты без падлогі і комінаў, у якіх дым ішоў па ўсім жытле, дзе пад прыпечкам сядзелі куры, а ў сенцах рохкаў маленькі парсючок.

...Аднойчы Аляксандр Дзяруга павёз на тэлебачанне свой дзіцячы цымбальны аркестр.

**Камера буйным планам трымае яго твар, а потым рукі раптам робяць зусім не дырыжорскі жэст.**

Маэстра трасе сваім грозным кулаком. Я ледзь не зваліўся са смеху з канапы.

А вось што здарылася па той бок экрана на самой справе.

У студыі аркестр быў абстаўлены экранамі-маніторамі, дзеці пабачылі сябе на тых маніторах і забыліся, што ім трэба іграць.

Вось такія былі тыя прамыя эфіры, на якім я і пазнаёміўся з захавальнікам хаты-музея **Францішка Багушэвіча** Міхалам Ляпехам, і наша сяброўства доўжылася не адзін дзясятак гадоў.

### Кушляны – гэта наша Швейцарыя

Спачатку ў Кушляны паехаў сам. Сеў на аўтобус Смаргонь-Кушляны і прыехаў у вёску. Ветліва сустрэў мяне Міхал Сымонавіч, і я адчуў сябе неяк светла, утульна і ўрачыста.

Якая ж тут прыгожая мясціна! Гэта наша Швейцарыя. Палі, узгоркі, алеі з векавымі дрэвамі, хмары, якія велічна і паэтычна плывуць па небе.

У любы бок павярніся і малюй.

У хаце Францішка Багушэвіча было сумна і ціха. Зрэдку прыязджалі школьнікі ці выпадковыя турысты, для якіх дзядзька Міхал праводзіў экскурсіі, вадзіў да мемарыяльнага каменя Мацея Бурачка і помніка драўлянай архітэктуры – свірна, адказваў на пытанні наведнікаў.

Зімой у хаце быў такі холад, што падлога пакрывалася шаранню і рабілася слізкай.

Тут, у бакоўцы хаты, жыў Міхал Сымонавіч. Галоўнае было – гэта перажыць зіму, каб уваходныя дзверы яго каморкі не прысыпала гурбамі снегу.

**Аднойчы ноччу на ложку яго за нос угрыз пацук, пакінуўшы след на твары.**

У Маладзечне жылі дзве дачкі Міхала Сымонавіча, але ён не мог пакінуць багушэвічаву хату, таму і мёрз зімой. Каб не Міхал Сымонавіч, яе б расцягнулі на дроўцы.

Гэта ўжо пасля, калі за справу ўзяўся былы старшыня мясцовага калгаса **А.А. Янец**, занядбалая будынінаператварылася ў мемарыяльны дом-музей Францішка Багушэвіча.

### У Кушлянах Ядвіга Раздзялоўская пісала кветкі

Падарожжы па родным краі былі жыццёвай неабходнасцю. У Маладзечне мы стварылі клуб аматараў мастацтваў, у які ўвайшлі мастакі, літаратары і музыканты.

Мы ладзілі вельмі гучныя вечарыны і выставы. 90 год з дня нараджэння **Максіма Багдановіча**, першае свята паэзіі ў Ракуцёўшчыне, якое потым стане штогадовым і традыцыйным, 100-годдзе з дня нараджэння **Купалы** і **Коласа**, тэматычная вечарына ў Яхімоўшчыне, свята паэзіі ў Кушлянах і яшчэ шмат юбілейных вечарын і выстаў.

Усё, што мы праводзілі ў Маладзечне, было толькі на нашым энтузіязме.

Нам дапамагалі два цудоўныя чалавекі: токар-фрэзероўшчык **Валер Асіповіч** і інжынер **Уладзімір Парфянёнкаў**. На сваіх уласных машынах яны падарожнічалі з намі ў Альбуць, Мікалаеўшчыну, Акінчыцы, Мір, Вязынку, Яхімоўшчыну, Крэва, Гальшаны, Баруны, Кушляны.

Уладзімір Парфянёнкаў падымаўся ў кватэру **Ядвігі Раздзялоўскай**, браў яе эцюднік, мастакоўскі парасон, сумку і адносіў у машыну, потым зноў прыходзіў за мастачкай.

На месцы ён ставіў эцюднік, парасон, уключаў яе радыё на польскую хвалю і жадаў ёй творчых поспехаў.

Пані Ядвіга высока цаніла нашых ветлівых кіроўцаў, а аднойчы сказала мне:

– Ваш дед малокультурный человек. Он меня обидел.

– А што здарылася?

– Он сказал, что я намного старше его. У нас в Польше женщине никогда никто так не скажет.

У Кушляны прыязджалі мы на эцюды. Часцей за ўсё ездзілі **Юрась Герасіменка-Жызнеўскі, Васіль Лазоўскі, Мікола Аўчыннікаў, Рыгор Мяжуеў** і наша незабыўная пані Ядвіга.

Тут яна напісала шмат кветак і хату Францішка Багушэвіча. Пісала здаля, бо хацела ўзяць разам з пейзажам. У майстэрні напісала вялізны твор "Кушляны". На пярэднім плане стол, кветкі, яблыкі з багушэвічавага сада, далей белы конь каля хаты (паэт вельмі любіў коней).

Сапраўды, у апошнюю дарогу Францішка Багушэвіча везлі ў Жупраны, дзе паэт і знайшоў свой апошні прытулак, на двух варанах.

У Кушлянах ён пражыў апошнія два гады жыцця.

**У 2009 годзе ў Смаргоні ўсталявалі помнік Францішку Багушэвічу аўтарства скульптара Льва Гумілеўскага.**

Уяўляю, які быў бы шчаслівы Міхал Сымонавіч Ляпеха, каб гэты помнік з'явіўся пры яго жыцці.

Ён прывозіў бы да помніка свае любімыя кветкі, якія сам сеяў і даглядаў каля хаты Францішка Багушэвіча ў маляўнічых Кушлянах, якія не адзін дзясятак гадоў натхнялі маладзечанскіх мастакоў.

**Юрась ЦЕРАБУН,**
**мастак, былы выкладчык цымбалаў, пенсіянер, жыхар Маладзечна.**

**Фота забяспечанае Юрасем ЦЕРАБУНОМ.**



Селянін з Кушлянаў Міхал Сымонавіч Ляпеха не даў расцягнуць па бярвеннях хату Францішка Багушэвіча.



Кушляны не адзін дзясятак гадоў натхнялі маладзечанскіх мастакоў. На фота дом-музей Францішка Багушэвіча.

МЕРКАВАННЕ

# Мы пражылі жыццё не так, як нам абяцалі. Чытаючы Нобелеўскага лаўрэата

## Як нас знявечвала марксісцка-ленінская ідэалогія

*Працяг. Пачатак у №№28, 29.*

**У апошняй выдадзенай кніжцы "Час Second-Hand" Святлана Алексіевіч дала поўную панараму жыцця савецкага чалавека, пачынаючы ад кастрычніцкага перавароту і да цяперашняга часу. Сапраўды: старэйшае пакаленне, усе мы homesovetikus. Нас знявечыла марксісцка-ленінская ідэалогія.**




Адзін з плакатаў савецкага часу.

Многія са старэйшых людзей, разважаючы аб пражытых гадах, не могуць зразумець, што жыццё пражытае не так, як ім абяцалі, як самі планавалі. Камунізм у СССР да 80-х гадоў не пабудавалі, а прыблізіліся да поўнага развалу і эканомікі, і духоўнага жыцця.

Іх аргумент – не ўсё было блага пры савецкай уладзе. Так хочацца запытаць – якой цаной дасталіся гэтыя крошкі дабрабыту? Чым можна апраўдаць каля 20 мільёнаў рэпрэсіраваных савецкіх людзей і больш за 20 мільёнаў забітых у войнах? І ўсё гэта ў імя ідэі будаўніцтва камунізму на ўсёй планеце!

### Канцэнтрацыйныя лагеры стварылі пры Леніну

У маладосці перачытаў амаль палову прац Леніна. Я, як і многія, лічыў сябе будаўніком камунізму. Шукаў адказы на пастаўленыя жыццём пытанні. І не знаходзіў іх. Напрыклад, пра калгасы. Часта спасылаліся на Леніна для апраўдання калгаснага строю. Але адказу там не знойдзеш, таму што Ленін пісаў пра кааперацыю, якая бурна развівалася яшчэ перад пераваротам. Кааперацыя і калгасны лад – гэта неба і зямля. Затое былі тысячы "вучоных", якія тлумачылі, што разумеў Ленін, пішучы любы артыкул. Ад гэтых тлумачэнняў чорнае станавілася белым і наадварот.

Не ўсё, напісанае Леніным, друкавалі, пра гэта мала хто ведаў, але часам удавалася прачытаць, напрыклад, і тое, што прыведзена ў кніжцы: "Повесить (непременно повесить, дабы народ знал) не меньше 1 000 завзятых кулаков, богатеев…"

Ці ж можна было падумаць, што наш мудрэйшы, усімі любімы Ленін на самой справе будзе настойваць на такім беззаконні? Ён жа, як бацька, які часта грозіць сыну, што адлупіць дзягай за непаслухмянасць, але ніколі гэтага не робіць. А выходзіць, што Ленін самы сапраўдны варвар 20 стагоддзя з вышэйшай юрыдычнай адукацыяй.

Пры ім вешалі, стралялі, нават з артылерыі і самалётаў тых, хто быў супраць такой зверскай улады, а многіх за нішто, ён жа даваў каманду браць заложнікаў. Органы ВЧК у самым пачатку іх дзейнасці кожны месяц расстрэльвалі больш за тысячу чалавек без следства і суда. Пры Леніну стварылі канцэнтрацыйныя лагеры. Але аб гэтым мала хто ведаў.

А масавыя рэпрэсіі трыццатых гадоў? Панаваў страх, даносы, калектыўныя зборышчы ганьбы "ворагаў народа". Дзяржава вырошчвала Паўлікаў Марозавых, якія маглі пасадзіцьу турму сваіх родных.

### Наша краіна не была разлічаная на мірнае жыццё

Наша краіна была ваенная, 70 працэнтаў эканомікі працавала на вайну. Нават па маіх падліках у канцы 80-х гадоў у нашым горадзе 50% прадукцыі прадпрыемстваў выпускалася як ваенныя заказы.

Як расказаў пісьменніцы былы работнік ЦК, "Наша краіна заўсёды існавала ў мабілізацыйным рэжыме з першых дзён. На мірнае жыццё яна не разлічаная. А народ? Народ простых рэчаў чакае. Дастатак пернікаў і… цара.

Высокія чыны не ведалі, да якой ступені нашым людзям абрыдла ўсё савецкае. Самі мала верылі ў "светлое будущее", але думалі, што народ верыць… Камунізм – як сухі закон: ідэя добрая, але не працуе".

А вось успамін тыповага homesovetikus. Камсамолец у 15 гадоў выдаў чырвонаармейцам-харчатрадаўцам свайго дзядзьку, які схаваў збожжа ў лесе. За гэта таго чырвонаармейцы пасеклі шашкамі на кавалкі, усё збожжа забралі, іх хату спалілі.

Потым дапамагаў узрываць цэрквы. На іх месцы будавалі прыбіральні, а святароў прымушалі там прыбіраць, камсамольцам было весела…

Прайшоў час… Арыштавалі жонку, потым яго. На допытах білі мяшком з пяском. Усё з яго вылазіла, як з чарвяка. Падвешвалі на крукі, як у сярэднявеччы. Але неяк вытрымаў, нічога не падпісаў. Тады тры разы арганізоўвалі фіктыўны расстрэл. Зноў нічога не падпісаў… Сталін быў вялікі рэжысёр. Якраз у той час ён зняў наркама Яжова, якога судзілі і расстралялі. А справу былога камсамольца, а потым члена партыі, праз год перагледзелі, і яго выпусцілі.

Жонка загінула ў лагерах, ён ваяваў, крывёй апраўдваў адданасць партыі, двойчы паранены, а пасля вайны яму вярнулі партыйны білет, і ён быў шчаслівы. "Хачу памерці камуністам", – было яго жаданне. Пасля смерці знайшлі завяшчанне: сваю вялікую кватэру ў цэнтры горада ён завяшчаў не ўнукам, а для патрэб любімай камуністычнай партыі, якой абавязаны ўсім. Помнік на яго магіле так ніхто і не паставіў.

Успамін пра вайну салдата. Ішлі ў бой з адной вінтоўкай на чацвярых. Першага забʼюць, другі яе падхоплівае, – другога – наступны.

А ў немцаў новенькія аўтаматы. Адступалі і наступалі ад ямы да ямы з трупамі нашых загінулых салдат і афіцэраў… Да канца 1943 года мы ўжо навучыліся ваяваць. Стала меней людзей гінуць.

Калі хто спалохаўся, пабег – камандзір на месцы расстрэльваў… Гэта было звычайнай справай. У Сталіна быў план: семʼі тых, хто здаўся ў палон, ссылаць у Сібір. З 500 000 палонных! Усіх не сашлеш. Вусаты людаед!"

**Леў ЧЫРВОНЦАЎ,**
**Маладзечна.**
**Заканчэнне будзе.**

### Удакладненне

Па віне рэдакцыі ў папярэдняй публікацыі Льва Чырвонцава была дапушчаная недакладнасць. Апошні абзац у другой калонцы трэба чытаць так: "Мяне 20 гадоў мучыла пытанне, ці адчувае сваю віну былы сакратар ЦК КПБ Мікалай Слюнькоў?.." і далей па тэксце. Просім прабачэння ў чытачоў.

КАЛЯНДАР

### 28 ЛІПЕНЯ

**205 гадоў** з дня нараджэння **Юзафа Ігнацы Крашэўскага** (1812 – 1887), беларускага і польскага пісьменніка, гісторыка, фалькларыста, грамадскага дзеяча. Пісаў па-польску, лічыцца адным з найвялікшых польскіх пісьменнікаў. Напісаў больш за 600 тамоў твораў: 223 раманы і аповесці, навуковыя працы па гісторыі, археалогіі, этнаграфіі, літаратуразнаўстве, філасофіі і інш. Быў прафесійным мастаком, музыкантам. Паўплываў на творчасць Элізы Ажэшкі, Генрыка Сянькевіча, Янкі Купалы. Два вершы Юзафа Крашэўскага пераклаў на беларускую мову Янка Купала. На беларускую мову яго творы таксама перакладаў Пятро Бітэль. Апісваў свае падарожжы па Беларусі, побыт яе жыхароў.

**1944 год.** Завяршылася вызваленне тэрыторыі Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**1897 год.** Памёр **Янка Лучына** (сапр. Неслухоўскі Янка), паэт. Пахаваны на Кальварыйскіх могілках у Мінску.

### 29 ЛІПЕНЯ

**40 гадоў** з часу адкрыцця (1977) у Мінску Беларускага навукова-даследчага інстытута кардыялогіі Міністэрства аховы здароўя Беларусі.

### 30 ЛІПЕНЯ

**35 гадоў** з часу заснавання Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея.

**Міжнародны дзень сяброўства.**

**100 гадоў** назад (1917) памёр **Ян Курчэўскі**, каталіцкі духоўнік, гісторык, педагог. Нарадзіўся ў мястэчку Данюшава, цяпер Смаргонскі раён, у 1854 годзе.

### 31 ЛІПЕНЯ

**215 гадоў** з дня нараджэння **Ігната Дамейкі** (1802 – 1889), геолага, мінеролага, удзельніка вызваленчага руху ў Беларусі і Францыі, нацыянальнага героя Чылі.

**200 гадоў** з дня нараджэння **Ігната Храпавіцкага** (1817 – 1893), беларускага фальклрыста, грамадскага дзеяча.

### 2 ЖНІЎНЯ

**85 гадоў** з часу прыняцця (1932) пастановы СНК БССР аб ажыццяўленні ўсеагульнай сямігадовай адукацыі.

### 3 ЖНІЎНЯ

**1971 год.** Памёр **Янка Маўр** (сапр. Фёдараў Іван), пісьменнік, перакладчык, адзін з пачынальнікаў беларускай дзіцячай літаратуры.

### У ЛІПЕНІ

**60 гадоў** назад (1957) у Мінску адбылося адкрыццё Дзяржаўнага мастацкага музея БССР (з 1993 года – Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь).

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Тытунёвыя люлькі і наканечнік стр
# чым здзівіла археолагаў сёлетняя э

ВІЛЕЙКА

**Калі вам, як і мне, цікава патрымаць у руках 300-гадовую манету-“барацінку” і прымераць на пальчык пярсцёнак 250-гадовай даўніны, нарасіцеся на раскопкі да археолагаў.**

Тры тыдні археалагічная экспедыцыя пад кіраўніцтвам выкладчыцы БДУ, супрацоўніцы НАН Беларусі, археолага **Паліны Курловіч-Бяляўскай** працавала ў Ільі на месцы былой шкляной гуты. Па дакументах, прадпрыемства працавала тут ад 1760-х і да 1806 года.

Паліна сустрэла мяне на раскопках і правяла невялікую экскурсію:

– Тут стаяла печ, дзе варылі шкло. Вось тут была пляцоўка, дзе шкляныя вырабы застывалі. А ў гэту яму скідвалі смецце, – распавяла Паліна.

Паказала археолаг і межы раскопу, які ў 1980-я рабіў вядомы навуковец, гісторык, ураджэнец Мядзельшчыны **Міхась Чарняўскі**. Дакументаў пра тыя раскопкі па нейкіх прычынах не засталося. Аднак ёсць знаходкі, перададзеныя ў Мінскі абласны краязнаўчы музей у Маладзечне.

### Тут печка, тут падлога, а тут скідвалі смецце

На месцы, дзе стаяла печка, сёння рудыя рэшткі цэглы і вялікі слой попелу. Цэгла выкладзеная па крузе. Унутры канструкцыі шмат вапняку. Побач рэшткі тагачаснага дрэва.

Сёлета, па словах Паліны, шмат бессістэмна пакладзеных драўляных кавалкаў знайшлі па ўсёй тэрыторыі прадпрыемства.

Пакуль дакладна нельга сказаць пра іх прызначэнне. Нешта магло трапляць у яму для смецця падчас рамонту, нешта выкарыстоўвалі для канструкцый на вытворчасці.

Але захавалася 300-гадовае дрэва даволі добра. Гэта таму, што тут блізка грунтавыя воды, кажа Паліна. Яны ствараюць неабходны для захоўвання вільготны слой.

Грунтавыя воды сведчаць яшчэ і пра тое, што недзе зусім побач з прадпрыемствам мог быць вадаём, які не захаваўся да сённяшняга дня. Магчыма, прыток ракі або нейкі ручай.

Гэту здагадку пацвярджаюць і сёлетнія знаходкі – вялікая колькасць жалезных кручкоў. Па словах Паліны, яны маглі выкарыстоўвацца для рыбалоўства.

### Гліняны гаршчок спецыяльна для мяне

Археолагі вызначылі прыкладныя межы завода. І за межамі ў час сёлетняй экспедыцыі знайшлі вялізны камень. А каля яго гадоў дзвесце з хвосцікам стаялі тры шклянкі, устаўленыя адна ў адну.

> **– А гэты гаршчок мы не чапалі, спецыяльна для вас пакінулі, – кажа археолаг і дастае з зямлі гліняны кавалак, у якім пазнаецца невялікая круглая пасудзіна.**

Яна нагадала мне сённяшнія вазонніцы, у якіх кветкаводы разводзяць фіялкі.

Даследчыца расказала, што такі посуд маглі выкарыстоўваць як у бытавых, так і ў вытворчых мэтах.

Добра бачны і ўзровень падлогі завода. Яе майстры выкладалі глінай. Сёння пра падлогу нагадвае руды слой

Пад падлогай у многіх месцах – вялікі слой попелу. Па словах Паліны, можна меркаваць, што на прадпрыемстве быў нейкі пажар, а пасля завод рамантавалі. А можа, гэта і не попел, а дрэва, пертворанае стагоддзямі ў своеасаблівую масу.

Наступны слой – мацярык. Так у археалогіі называецца зямля, якая была тут першапачаткова, яшчэ да з’яўлення прадпрыемства. У ёй няма рэштак чалавечай дзейнасці.

### Што тут было раней, чым гута?

Участак, які даследуюць археолагі, у Паліны ўжо даўно выклікае здзіўленне. Справа ў тым, што дзе-нідзе нават пад мацерыком сустракаюцца рудыя гліняныя рэшткі. Па словах дзяўчыны, часта бывае, калі праводзяць раскопкі ў гарадах.

Пра што гэта можа сведчыць? Пра тое, што чалавек працаваў тут раней, чым пабудавалі гуту. Над гэтым прымушаюць задумацца і некаторыя знаходкі.



Удзельніца экспедыцыі Інга Пяганава робіць тапаграфічную здымку мясцовасці. Фота vk.com.



Пярсцёнак тагачаснай прыгажуні я нацягнула да сярэдзіны пальца.



Тры шклянкі, устаўленыя адна ў адну, стаялі ля ўвахода ў гуту.

Напрыклад, падчас сёлетняй экспедыцыі з зямлі выкапалі металічны наканечнік стралы. Адкуль ён браўся на прадпрыемстве ў 18-19 стагоддзі, калі, па словах Паліны, зброю са стрэламі перасталі выкарыстоўваць у 16 стагоддзі?

Або тыя ж манеты-барацінкі, якія ў вялікай колькасці археолагі знаходзяць у Ільі на раскопках штогод? Барацінкі – дробныя манеты Рэчы Паспалітай.

Гэтыя медныя грошы пачалі вырабляць па прапанове тагачаснага кіраўніка манетнага двара **Бараціні** ў 1659 годзе, каб пераадолець эканамічны крызіс у дзяржаве.

У 1666 годзе манеты ўжо перасталі чаканіць. Але тым не менш на ільянскім прадпрыемстве 1760-х гадоў іх знаходзяць. Адкуль?

А вось манета царскай Расіі “дзяньга” трапіла ў Ілью ўжо пасля падзелу Рэчы Паспалітай. Такія манеты чаканілі ў 1730-1740-х гадах.

### Як курылі ільянцы ў 18 стагоддзі

Калекцыю археалагічных знаходак папоўнілі рэшткі дзвюх тытунёвых люлек. Зусім маленькі кавалак “галандскай” люлькі з белай гліны знайшлі ў слаі попелу пад падлогай.

Паліна расказала, што такія прылады выраблялі ў Паўночнай Еўропе, у Галандыі, Англіі. У 18 стагоддзі прадпрыемства па вырабе “галандскіх” люлек заклаў Пётр Першы ў Пецярбургу.

Яшчэ адна люлька – тая, якую нашы продкі называлі “турэцкай”. Ад яе засталося крыху больш, чым ад папярэдняй. Можна зразумець, куды закладалі тытунь і ўстаўлялі муштук.

“Турэцкія” люлькі ра-

# ралы: экспедыцыя ў Ілы

Кіраўнік экспедыцыі Паліна Курловіч-Бяляўская з горлачкам ад бутэлькі для алкагольных напояў.

білі ў Асманскай імперыі і Усходняй Еўропе. Невядома, ці выраблялі такія прылады для курэння ў Беларусі. Але цяпер дакладна вядома, што ільянцы ў 18 стагоддзі карысталіся імі.

## Як у шкларобаў нешта пайшло не так

Кожны год археолагі знаходзяць кераміку, адходы вытворчасці. Гэта плаўленае шкло, вялікія і малыя шкляныя кроплі.

У гэты раз знайшлі нават "брак". Відаць, майстар хацеў зрабіць шклянку, але нешта пайшло не так. Выраб сплюснуўся. І амаль праз тры стагоддзі трапіў у рукі археолагам.

Рэшткі шкляных вырабаў – высокія горлачкі ад бутэлек для алкагольных напояў і нізкія – ад аптэчных пасудзін, падстаўкі ад келіхаў – усе розных колераў.

Па словах спецыяліста, натуральны колер шкла – зеленаваты. Каб выраб стаў празрыстым, продкі-шкларобы дадавалі ў шкляную масу крэйду або свінец.

Каб дабіцца ружовага, фіялетавага, блакітнага колераў, таксама дадавалі нейкія фарбавальнікі, хутчэй за ўсё, натуральныя. Аднак высветліць, якія менавіта, дапаможа толькі хімічная экспертыза.

Шмат донцаў ад пасудзін. І адно з іх своеасаблівае. На донцы захаваўся след ад понціі – жалезнага стрыжня, для вымання шкляных вырабаў.

## Гравіраванае шкло для багатай кухні

Зацікавіла спецыялістаў гравіраванае шкло. Каб зрабіць гравіроўку, майстры ў 18 стагоддзі павінны былі мець вельмі добрыя інструменты і дасканала валодаць імі.

Майстроў такіх было няшмат. Адпаведна, і шкляныя вырабы з гравіроўкай каштавалі дорага і выкарыстоўваліся ў інтэр'ерах багатых гаспадароў.

Гравіроўка на кавалку знойдзенага штофіка – квадратнай шкляной бутэлькі – зробленая даволі прафесійна.

## Знайшлі пярсцёнак на тонкі пальчык і прывітанне ад Капейкіных

Стагоддзі тры таму на прадпрыемства завітвала мясцовая прыгажуня. Напэўна, яна і згубіла тут просценькі жалезны пярсцёнак.

Я не стрымалася і памерала ўпрыгажэнне на свой палец. Аднак нацягнула пярсцёнак толькі да сярэдзіны. Відаць, тонкія пальчыкі былі ў той прыгажуні.

Невядома для чаго на шкларобчым прадпрыемстве выкарыстоўвалі знойдзены сёлета нож. Магчыма, для вытворчасці.

А можа, для банальных бытавых мэт: парэзаць мяса падчас абеду. Нездарма ж кожны год у вялікай колькасці археолагі знаходзяць тут косткі розных жывёл.

Трымаю ў руцэ пасярэбраны гузік. На адваротным яго баку добра захаваўся надпіс "Копѣйкинъ". Гэты гузік з тых, што рабілі ў 19 стагоддзі тагачасныя прадпрымальнікі – Капейкіны ў Пецярбургу

Іх было некалькі братоў – Іван, Максім, Канстанцін, Мікалай і Аўксенцій. Выраб якога брата трапіў у Ілью? Пра гэта можна толькі здагадвацца.

## Дзеля раскопак гаспадары перасталі садзіць бульбу

Участак раскопу археолагі падзяляюць на квадраты два на два метры. Межы абазначаюць калкамі. Знойдзеныя рэчы складаюць у кошыкі. Потым мыюць і раскладаюць па пакетах. На спецыяльным плане пазначаюць, у якім месцы і на якой глыбіні знайшлі рэч.

У Ілью археолагі з БДУ прыязджаюць кожнае лета. Узгадняюць сваю дзейнасць з мясцовым сельсаветам і жыхарамі.

Яшчэ некалькі год таму на месцы старой ільянскай гуты вельмі добра радзіла бульба. Тут яе садзіла сям'я **Філіповічаў.**

Таму навукоўцы мусілі прасіць гаспадароў, каб выдзелілі ім хаця б невялікі кавалак для раскопак. І гаспадары з разуменнем паставіліся да працы археолагаў: увогуле перасталі садзіць бульбу на гэтым участку.

Летась даследчыкі жылі ў школе. Сёлета ўмовы былі больш "палявымі". Тры тыдні студэнты разам з кіраўніком правялі ў палатках на тэрыторыі Ільянскага лясніцтва.

Яго супрацоўнікі дапамагалі з дровамі і час ад часу сачылі за парадкам.

Мясцовыя жыхары, якія жывуць недалёка ад месца раскопак, частавалі вясковымі прысмакамі і дазвалялі падзарадзіць тэлефоны ў сваіх дамах.

Па словах Паліны, тое, што раскапалі, – гэта не ўсё прадпрыемства.

– Мы з вамі зараз якраз стаім на тым месцы, дзе майстэрня працягвалася, – кажа археолаг.

Сёлетняй экспедыцыяй даследчыкі планавалі закончыць раскопкі. Аднак ільянская зямля настолькі багатая на знаходкі, што археолагі мусяць вярнуцца ў наступным годзе.

**Фота аўтара.**



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99

# Ягор Лагуновіч з Краснага: перамагаў на самых вядомых рынгах свету...

МАЛАДЗЕЧНА

**– Вырывайся вышэй і бі! Мацней! Так... Яшчэ раз. Не спяшайся!**

Такога роду настаўленні, нібы гром, увесь час раздаюцца падчас выступлення на рынгу.

Мне пашанцавала, што гэтым вечарам з тайскім боксам мяне знаёміў адзін з трэнераў спартыўнага клуба "Гладыятар", фіналіст Кубка свету па кікбоксінгу і сямікратны чэмпіён Беларусі па ушу **Ягор Лагуновіч.**

Сустрэчу Ягор прызначыў у спартыўнай зале, сярод груш, матаў і рознага жалеза: ад гір і штангаў да трэнажораў.

У Ягора была індывідуальная трэніроўка, таму на пытанні ён адказваў падчас размінкі: спартсмен размінаўся на скакалцы, потым перайшоў на падоўжана-папярэчны шпагат. Нарэшце, мы падышлі да грушы.

Ён спрытна і моцна б'е па грушы, ухіляецца ад уяўнага праціўніка, амаль не спыняючыся.

**– Колькі год ты ўжо займаешся тайскім боксам? Чаму выбраў гэты від спорту?**

– Я пачынаў не адразу з бокса. Была барацьба, лёгкая і цяжкая атлетыка, каратэ. Шукаў сябе, – адказвае Ягор і тут жа зноў лупіць на грушы. – У 15 год прыйшоў менавіта ў тайскі бокс. Выходзіць, займаюся ўжо 11 год.

**– Улічваючы, як праяўляў сябе ў розных відах спорту, у школе ты быў аўтарытэт?**

– Я так не сказаў бы! У школе не раз даводзілася біцца. Былі праблемы. Біўся на дыскатэках, у школе, што было, тое было. – Прымяняў прыёмы, якімі мяне вучылі на трэніроўках. Ведаў, што гэта забаронена, але ўсё адно прымяняў. Зразумела, гэта была самаабарона. Або даводзілася пастаяць за дзяўчыну.

**– Калі энергію ўсё ж накіраваў у мірнае рэчышча? Памятаеш свой першы чэмпіянат? Як гэта было?**

– Калі мне было 16, у Мінску праходзіў чэмпіянат рэспублікі па ушу і кікбоксінгу. Гэта быў мой першы сур'ёзны бой. Сапернік быў моцны, але я выйграў.

**– Ты займаешся 11 год. Чаго было больш: паражэнняў ці перамог?**

– Больш перамог. Я скончыў БДУФК. Паступіць туды не так проста, я вельмі доўга трэніраваўся, выязджаў на спаборніцтвы і дзякуючы перамогам і заслугам паступіў. Тры разы выйграваў чэмпіянат Беларусі па кікбоксінгу. Два разы выступаў на Кубку свету. Першы раз стаў фіналістам, другі раз – прызёрам Кубка свету. Я выходзіў на спаборніцтвы змагацца толькі за медалі. Акрамя гэтага спрабаваў сябе ў прафесійным спорце. Гэта значыць, што спартсмен выходзіць на рынг толькі з капай ды ў баксёрскіх пальчатках. Без іншых абаронных атрыбутаў. Вядома, гэта больш небяспечна, чым аматарскі спорт. За такія выхады на рынг я атрымліваў замест узнагарод грошы.

**– Каб падтрымліваць выдатную фізічную форму, трэба займацца сабой кожны дзень. Калі ўявіць, як доўга ты займаешся боксам, прыкладна колькі ўдараў зрабіў за ўвесь час?**

– Гэта касмічная лічба, напэўна. Вельмі шмат. Удзень звычайна атрымоўваецца каля 500 удараў. Акрамя асноўных трэніровак у мяне ёсць і разгрузачныя дні, калі я аддаюся плаванню ці бегу.

**– Калі б табе прыйшлося намаляваць сваё жыццё ў адной карціне – якой бы яна выглядала?**

– Ну, вядома, сям'я, дзеці, любімая праца, спорт.

**– Што для цябе важней: зрабіць выдатную кар'еру ці ўсё ж такі мець сям'ю?**

– Сям'я – галоўнае. Вядома, я не кіну спорт, буду працягваць трэніравацца і трэніраваць вучняў. Але сям'я на першым плане.

**– За ўвесь час ты атрымаў столькі ўзнагарод, заваяваў два кубкі. Якая ўзнагарода для цябе самая дарагая?**

– Перамога на чэмпіянатах Беларусі была самай дарагой узнагародай. А самай важнай для мяне з'яўляецца павага і вялікая колькасць вучняў.

Так мы і размаўлялі ў перапынках паміж падыходамі. Ягор з хуткасцю дэманстраваў прыёмы.

Я з захапленнем глядзела на яго моцныя рукі, як выдатна яны спраўляюцца з грушай. Гэтыя рукі трымалі ўдар і атакавалі на самых вядомых рынгах свету... Адным словам, мне было прыемна пазнаёміцца з такім выдатным спартсменам.

Ягор Лагуновіч прызнаецца, што ў юнацтве карыстаўся прыёмамі тайскага бокса і ў вулічных бойках.

**Кацярына КАСЦЕВІЧ,**
**студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ.**
**Фота аўтара.**

НАВІНЫ

## Матчы ХК "Дынама-Маладзечна" перанесеныя на іншыя даты

Два паядынкі з удзелам "Зуброў", якія былі запланаваныя на 23 і 25 жніўня, перанесеныя на іншыя даты, таксама зменены час пачатку матча з "Шахцёрам".

Матч "Шахцёр" - "Дынама-Маладзечна" адбудзецца 10 жніўня ў 18:15.

Гульня "Дынама-Маладзечна" - "U-20" пройдзе 24 жніўня. Пачатак матча ў 19:00.

А паядынак "Дынама-Маладзечна" - "Юнацтва" перанесены на 26 жніўня. Пачатак у 18:30.

## Аграгарадок Баруны запрашае на культурна-спартыўнае свята "Дзень Нептуна"

АШМЯНЫ

Творчы калектыў сельскага клуба аграгарадка Баруны і прадпрымальнік **Іван Кунюта** запрашаюць усіх ахвотных да возера фермерскай гаспадаркі "Іванава" 29 ліпеня ў 18:00 на культурна-спартыўнае свята "Дзень Нептуна".

У праграме: спартыўныя спаборніцтвы, спаборніцтвы па рыбнай лоўлі, міні-футбол, гульнёвыя конкурсы, запальная музыка і песні, і, вядома ж, сустрэча з Нептунам і Русалкамі, якія акунуць гасцей у таямнічы свет казкі. Свята скончыцца начной дыскатэкай.

Тэлефон для даведак: **8 (01593) 33357.**

## У турзлёце перамагла каманда вілейскага аддзела адукацыі

ВІЛЕЙКА

22 і 23 ліпеня на Вілейскім вадасховішчы зладзілі турыстычны злёт для моладзі, прысвечаны памяці краязнаўца **Віталя Кастэнкі**.

Як расказалі ў аддзеле адукацыі, спорту і турызму райвыканкама, удзельнічала дзесяць камандаў з прадпрыемстваў і арганізацый раёна. Маладыя людзі спаборнічалі ў конкурсе візітовак, турыстычнай песні, арыентаванні на мясцовасці, фігурным катанні на роварах, веславанні на каноэ. Дэманстравалі ўменне ставіць палаткі, вязаць вузлы, перацягваць канат.

Асобна спаборнічалі на лепшыя побытавыя ўмовы. Журы ацэньвала стан палатачнага лагера, яго эстэтычнае афармленне. Штодзённа ладзілі дыскатэкі.

Пераможцы паехалі дадому з дыпломамі і падарункамі. Першае месца – у каманды аддзела адукацыі, спорту і турызму, другое – у "Зеніт-БелАМА", трэцяе – у каманды аддзела дэпартамента аховы.

Каманда, якая заняла першае месца, атрымала і спецыяльны падарунак – сертыфікат на гульню ў лазертаг на 20 чалавек.

## У Вілейцы развіваюць роварны рух

ВІЛЕЙКА

У рамках праекта "Садзейнічанне развіццю на мясцовым узроўні ў Рэспубліцы Беларусь", што фінансуе Еўрапейскі саюз і рэалізуецца Праграмай развіцця ААН, у Вілейцы развіваюць роварны рух.

Па словах старшыні ГА "ЗОВіК" **Таццяны Цітуленкі**, гэта робіцца для таго, каб зменшыць шкодныя выкіды ад аўтамабіляў у паветра. На яе думку, ездзіць на ровары варта вучыць дзяцей з маленства.

Першыя захады па развіцці роварнага руху ў Вілейцы ўжо зрабілі. У Ніжнім парку з'явілася спецыяльная сцяжынка для раварыстаў. У хуткім часе каля яе плануюць паставіць лаўкі, сметніцы, зрабіць паркоўкі для ровараў, нанесці разметку.

Сума фінансавання на развіццё ініцыятывы – 24 836 еўра.

**Аддзел інфармацыі.**



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Таварыш па прафесіі, па рабоце, па вучобе.
3. Каб зрабіць гэта падчас будаўніцтва Ісаакіеўскага сабора ў Піцеры, палкоўніку Цярэміну спатрэбілася 25 хвілін. Сёння гэта можа зрабіць кожны з нас за некалькі секунд.
4. Слуга, выязны лакей часоў прыгоннага права.
5. Горад у нашым рэгіёне, дзе да 25 жніўня працуе выстава, прысвечаная Гары Потэру.
7. Вялікі падсвечнік з разгалінаваннямі для некалькіх свечак або электрычных лямп у выглядзе свечак.
8. Вы ведаеце выраз “Бойцеся данайцаў, што дары прыносяць”. Як мы называем данайцаў?
11. Плецены або драўляны дзіцячы ложак, які можна гушкаць.
12. Ніжэйшая бесхларафільная расліна ў выглядзе шапачкі на ножцы.
13. Пакет з паперы для перасылкі пісьма па пошце.
14. Мазь для чысткі скуранога абутку; вакса.
17. Прыстань, порт, бухта.
20. Кіруючая асоба з грамадска-палітычнымі, арганізацыйнымі, адміністрацыйнымі функцыямі.
21. Пра ўзнікненне гэтай вёскі ў Маладзечанскім раёне ёсць такая гісторыя. Едучы ў Маладзечна з Краснага вялікі князь літоўскі Аляксандр Ягелончык са сваёй світай быў неспадзявана абкружаны воўчай зграяй, якая прымусіла яго збіцца з дарогі і праследавала да ўзбярэжжа Ушы. Пазбавіўшыся ад небяспекі, Аляксандр загадаў пабудаваць у гонар свайго выратавання драўляны касцёл. Мясціна пачалася лічыцца святой, і каля касцёла ўзніклі могілкі, дзе хавалі прадстаўнікоў знаці.
24. Янка Купала: "Дум не скуеш ...".
25. Сталіца Перу.
26. Мяркуецца, што гэты прадмет вынайшлі манахі, якія працавалі над перапісваннем кніг. Гэты прадмет бывае “для старых” і “для маладых”. Першым выкарыстаннем гэтага прадмета “для маладых”, зафіксаваным дакументальна, лічыцца партрэт папы Льва X, напісаны Рафаэлем у першай палове 16 стагоддзя. Пантыфік скарыстаўся ім, выпраўляючыся на паляванне.
27. Сяргей Грахоўскі: “Я закаханы ў матчыну мову, а ёю ... хлеб і малако”.
28. Моцны напітак з каньяку або рому з цукрам і гарачай вадой.
30. Гульня, від спорту, дзень якога адзначаецца 20 ліпеня.
35. Так называецца нізіна ў вусці ракі і літара грэчаскага алфавіта.
36. Вялікая птушка сямейства фазанавых з яркім апярэннем.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Прадмет мяккай мэблі для сядзення і ляжання, са спінкай і падлакотнікамі.
6. Паўднёвая дэкаратыўная расліна сямейства чайных з вечназялёным лісцем і буйнымі прыгожымі белымі або чырвонымі кветкамі.
9. Дыяметр канала ствала агнястрэльнай зброі.
10. Спалучэнне фарбаў, колераў, якое ставарае пэўнае адзінства ў карціне, каляровай гравюры, мазаіцы.
14. Гаспадарчая дзейнасць, звязаная з абаротам, купляй і продажам тавараў.
15. Насценны дыван ручной работы з вытканай на ім карцінай, узорам.
16. З грэчаскай мовы гэта “ліст, складзены ў два разы”. Мы часта выкарыстоўваем гэта слова як назву дакумента, які пацвярджае тыя ці іншыя заслугі.
17. Бязладны шум мноства галасоў.
18. Тоўстая баваўняная або шарсцяная тканіна з чорных і карычневых нітак.
19. У анатоміі кожная з трох кароткіх трубчастых костачак пальца.
22. Як па-латыні “шар”?
23. У старажытнарымскіх войсках ён быў начальнікам над дзесяццю салдатамі. Цяпер гэтым словам называюць пасаду ва ўніверсітэтах.
27. Прозвішча арганізатара фестывалю “Самаход”, які адбыўся ў Вілейцы 15 ліпеня ад кампаніі “Без візы”.
29. Тое, што і перагной.
31. Вялікі вышынны будынак.
32. Цяпер так мы называем папулярную моладзевую забаву, а вось само слова з грэчаскай перакладаецца як “сховішча дыскаў”.
33. Народная назва некаторых відаў лугавых траў – дрыжніку, кураслепу і іншых.
34. Абліцовачны драўняны матэрыял у выглядзе тонкіх пласцін, які выкарыстоўваецца для абклейвання сталярных вырабаў, каб надаць ім прыгожы выгляд.

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №29

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Даіць. 3. Датла. 4. Інвентар. 7. Пушча. 8. Хімчыстку. 11. Дубальтовы. 12. Пусташ. 15. Даклад. 16. Нейлон. 18. Краля. 20. Юмбрык. 24. Мумія. 25. Пачын. 26. Абітурыент. 31. Капейка. 32. Геральдыка. 33. Акулы. 35. Акадэмія. 38. Крысо.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Дзіва. 5. Айвенга. 6. Кухан. 9. Парасон. 10. Імперфект. 11. Дубок. 13. Атруту. 14. Надзея. 17. Антарктыда. 18. Кушнер. 19. Ілюзія. 21. Пармезан. 22. Лета. 23. Дракон. 27. Мільён. 28. Іжыца. 29. Ноты. 30. Туман. 34. Вокны. 36. Люстэрка. 37. Ало.

## ГАРАСКОП 28 ЛІПЕНЯ - 3 ЖНІЎНЯ



**АВЕН.** Цяпер ваша галоўная задача – знаходзіць радасць у дробязях. Трэніруйце ў сабе ўменне дараваць, бескарыслівасць, спагадлівасць. Калі ў вас ёсць дзеці, то прышчэплівайце такія якасці і ім. А яшчэ у вас будзе важкая прычына, каб ганарыцца сабой.



**ЦЯЛЕЦ.** Верце ў сябе, любіце сябе. Ведайце, што вы для сябе – самыя-самыя галоўныя. І кожны чалавек для сябе – самы галоўны. Ніколі не прыносьце сябе ў ахвяру, бо ахвяры нікому не патрэбныя.



**БЛІЗНЯТЫ.** Зоркі раяць звярнуць увагу на блізкага чалавека. Вашы няўважлівыя адносіны да яго на працягу апошніх тыдняў узвялі сцяну непаразумення і адчужанасці. Захаваць цудоўныя стасункі пры вельмі хісткіх адносінах зможа той, у каго хопіць смеласці весці сябе так, як ні ў чым не бывала.



**РАК.** Знаходзіцца ў стане летуценніка карысна, але толькі ў тых выпадках, калі гэты стан не зацягваецца на нявызначаны тэрмін. Цяпер для вас адкрываюцца перспектывы матэрыяльнага плана. Рэалізаваць іх, а таксама выбраць для сябе шлях і спосаб дзеяння вам дапаможа іншы чалавек. Даверцеся яму і старайцеся не рабіць нічога ў адзіночку.



**ЛЕЎ.** Чаргуйце актыўнасць і адпачынак, гэта важна для вашага здароўя. У любую справу дадавайце разлік і не дазваляйце нікому ўмешвацца ў ваша ўласнае жыццё.



**ДЗЕВА.** У выхадныя папесціце сябе новай абноўкай, паходам у кіно ці размовай са старым сябрам за кубачкам кавы з дэсертам. Спрыяльны перыяд для фінансавых спраў, хаця магчымае і незадавальненне тым, што адбываецца.



**ШАЛІ.** Цяпер вы знаходзіцеся ў стабільным і ўраўнаважаным матэрыяльным стане, праўда, ён можа трохі пахіснуцца. Вас чакае рамантычная сустрэча, можа, нават новае каханне. Яно адцягне вашу ўвагу ад матэрыяльных спраў і тым самым можа трохі падсапсаваць фінансавае становішча. Магчыма, гэта прыгода вартая таго. Цяпер любыя перашкоды вы будзеце пераадольваць удваіх. Праўда, гэта тычыцца тых, хто разлічвае на сур’ёзныя і доўгія адносіны.



**СКАРПІЁН.** Калі вас паспрабуюць уцягнуць у канфлікт, не прымайце нічыйны бок, бо ў кожнага свая праўда. Цяпер можна пачаць рабіць рамонт ці купляць мэблю ці іншыя прадметы інтэр’еру. Толькі ўсе траты трэба добра планаваць. Глядзіце на жыццё максімальна прагматычна.



**СТРАЛЕЦ.** Не дапускайце сітуацый, якія вас не задавальняюць, гэта значыць, старайцеся загадзя ўгледзець магчымы негатыў, каб абысці яго бокам. Сфера ўласных адносін адыдзе на другі план, і гэта дасць вам магчымасць адпачыць. Не спяшайцеся прымаць важныя рашэнні, парайцеся з людзьмі, якія разбіраюцца ў канкрэтным пытанні.



**КАЗЯРОГ.** Вы многага дасягнулі і можаце ганарыцца сабой. Але вас мучаць страхі, перажыванні і нават бяссонніца з-за таго, што нешта ідзе не па вашым сцэнарыі. Не перажывайце, проста часам розум бярэ верх над эмоцыямі і іх становіцца нябачна няўзброеным вокам.



**ВАДАЛЕЙ.** І няхай навакольныя коса, з асцярогай пазіраюць на вашу не да месца ўсмешку. Калі вы задаволеныя і шчаслівыя, свет пачынае трансфармавацца, міжвольна прагінаючыся пад вашым пазітыўным напорам.



**РЫБЫ.** Сямейныя пары будуць шумна высвятляць адносіны, змагацца за высокае званне “гаспадара ў доме”. Гэта зачэпіць нават тых, хто не першы год разам. Але сядзьце і падумайце: ці гэта важна? Кантралюйце свае эмоцыі і пачуцці, бо яны могуць выйсці за рамкі адносін з партнёрамі ці роднымі.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | 1 | | | | | | | |
| | | 8 | | | | | | 2 |
| | | | 1 | 6 | 8 | 4 | | 3 |
| 9 | | | | | 2 | 6 | | |
| | | | 9 | | 5 | | | |
| | | 2 | 8 | | | | | 4 |
| 5 | | 3 | 7 | 2 | 1 | | | |
| 6 | | | | | | 5 | | |
| | | | | | | | 7 | 1 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



ISSN 1991–7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Найлепшая рэгіянальная газета года 2015

тэлетыдзень

## ● НАДВОР'Е

**29 ліпеня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +17 / +25 | | +17 / +21 | | +15 / +23 | | +16 / +28 | |
| | 734 | ↑ 2 | 736 | ↘ 8 | 742 | → 6 | 740 | ↗ 8 |
| Вільня | +16 / +21 | | +16 / +20 | | +13 / +21 | | +16 / +23 | |
| | 740 | ↑ 2 | 744 | ↘ 7 | 748 | → 5 | 746 | → 6 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с. Усход, захад па Маладзечне

Усход 5.20
Захад 21.17
Даўжыня дня 15.57

Усход 12.40
Захад 23.56
Квадра 1

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +18 / +24 | 741 | ↘ 6 |
| Гродна | +15 / +21 | 749 | → 6 |
| Мінск | +17 / +21 | 736 | ↘ 8 |
| Магілёў | +18 / +23 | 739 | ↘ 6 |
| Брэст | +14 / +23 | 748 | ↘ 6 |
| Гомель | +19 / +23 | 742 | ↘ 5 |

## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература +7 °С у 1982 годзе
Максімальная тэмпература +33 °С у 2012 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 53,4 мм у 1972 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

● **У Крывым Сяле на Вілейшчыне завяршылі грантаўскі праект па развіцці вёсак сельсавета. Што змянілася ў жыцці жыхароў, чытайце ў наступным нумары.**



## ● ПРОСТА АНЕКДОТ

– Набыла туфлі. Паўзаробку аддала.
– Ого! Што гэта за туфлі такія?
– Ды звычайныя туфлі. Заробак такі.

***

Быў адзін нармальны чалавек у доме: усё пасляваў, усім дапамагаў, есці варыў – гэта бабуля. Учора набыў ёй ноўтбук. Усё! Згубілі чалавека.

***

– Восі мне ўжо трыццаць, а я адчуваю сябе на васямнаццаць?
– Такі ж бадзёры, дзёрзкі і амбіцыйны?
– Не. Па-ранейшаму без кватэры, грошай і працы.

***

– Вы тэлефанавалі гадзіну таму і сказалі, што ў вас толькі бампер памяты. А тут і бампер, і дзверы, і шкло, і фары пабітыя.
– Дык я ж пакуль даехала.

***

Сорак гадоў – цікавы ўзрост. Адна сяброўка бабуляй стала, другая ў дэкрэтны пайшла.

***

Суседзі, цешцеся! Рамонт закончаны. Балгарку, дрыль, перфаратар прадалі. Набылі караоке!

***

– Прачынайся. 15 хвілін да працы засталося.
– Ты што?! Мне фарбавацца толькі 20 хвілін.
– А я цябе ўжо нафарбаваў, пакуль ты спала.

***

Муж пасля шматгадзіннай гульні ў танкі:
– А што ў нас ёсць паесці?
Жонка:
– А што? Палявую кухню разбамбілі?

***

– Дачушка, ты звязалася з дрэннай кампаніяй?
– Не. Я яе заснавала.

***

Мама з маленькім сынам заходзіць у маршрутку. Усе месцы занятыя. Адна жанчына ўзяла хлопчыка да сябе на калені.
Мама:
– Што трэба сказаць?
Сын, паварочваючыся да жанчыны:
– Вы замужам?

***

Мужчынская логіка: "Ну дык што, што ў вушанцы і валёнках. Затое цёпла".
Жаночая логіка: "Ну дык што, што ўсё адмарозіла. Затое прыгожа".

***

А памятаеце, калі нам было дзесяць год і мы сыходзілі са свайго двара? Тады фраза "цябе мама шукала" гучала як смяротны прыгавор.

***

Пасля таго, як сын залез да мяне на спіну і закрычаў "Ура! Я еду на бегемоце!", я села на дыету.

***

Скінутыя ў спартыўнай зале кілаграмы цярпліва чакалі мяне ў халадзільніку.

***

Да мамы сто пытанняў за хвіліну: "дзе шкарпэткі?", "што апрануць?", "што есці?". Да таты адно – "дзе мама?".

***

Мы, мамы, увесь час спяшаемся: хутчэй бы вырас, хутчэй бы пайшоў. Вось і вырас, і пайшоў. І добра, калі скажа, куды.

## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Якая рэч у вашым гардэробе самая дарагая?

**Вераніка Якушык, жыхарка Дубрава:**
– Менавіта ў гардэробе – вясельная сукенка. І дарагая, і дакладна ведаю, што другі раз не адзену, а выкідаць шкада.

**Алеся Каролік, рэжысёр, дырэктар дабрачыннага фонду "Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага"**
– У мяне ёсць сукенка, пра якую мае сябры кажуць, што я ў ёй як Хілары Клінтан. Яшчэ, калі была ў Францыі, набыла сабе сапраўдную дарагую французскую парфуму. Ёй карыстаюся толькі ў вельмі асаблівых выпадках.

**Алена Емяльян, спецыяліст па навучанні:**
– А ў мяне няма такіх рэчаў. Хіба толькі зімовая куртка, але і яна каштуе 70 рублёў. Не самая дарагая рэч. Фотаапарат вось у мяне дарагі, ім магу пахваліцца, а туфлямі і сукенкамі не.

**Віталь Назарэвіч, архівіст:**
– Я нарадзіўся ў партовым горадзе, прывык, што рэчы павінны быць таннымі і якаснымі. Таму шукаю тое, што можна набыць танней. Ёсць рэчы, якія дарагія сэрцу. Але гэта іншая гісторыя.

**Юры Казлоўскі, таксіст:**
– Самая дарагая рэч у маім гардэробе – гэта норкавае футра. Але ж я не Фёдар Шаляпін, таму футра не нашу. Яно вісіць у шафе і грэе душу. Думаю, набыць яшчэ туфлі са скуры кракадзіла, але пасля заробку. А калі шчыра, то гэта шкарпэткі, якія звязала бабуля.

**Аляксей Маліцкі, бармен:**
– Да гэтага часу памятаю, як лахануўся з самай дарагой рэччу. Набыў сабе мантыю за 115 рублёў, кофту такую без гузікаў. А як прыгледзеўся дома, ну, кусок анучы, не болей.

**Юлія Сырамалот, адміністратар рэстарана:**
– Самая дарагая рэч для мяне – гэта мая выпускная сукенка, якую я захоўваю і буду захоўваць! Дарагая яна мне таму, што яе падарыла мне мая любімая мама! На той момант гэта было вельмі дорага, і я не чакала, што ў мяне будзе такая чароўная сукенка! Я была па-вар'яцку шчаслівая, і гэта самая каштоўная для мяне рэч назаўжды.

**Падрыхтавала Наталля ТУР.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№30 (1161) 28.07.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 705 . Падпісана ў друк у 9.00 27.07.2017.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.